Інфармацыйны бюлетэнь № 2/98

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА-КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА





"ВЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ТВОРЦАМІ ЎЛАСНАЙ ГІСТОРЫІ, АСАБІСТАЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ", – СКАЗАЎ КУБІНЦАМ СВЯТЫ АЙЦЕЦ

# *"PÓJDŹCIE, BŁOGOSŁAWIENI OJCA MOJEGO, BO BYŁEM UBOGI I OPUSZCZONY, A PRZYJĘLIŚCIE MNIE!"*



**1.** Drodzy Bracia i Siostry!

Wielki Post przypomina nam każdego roku tajemnicę Chrystusa, który "przebywał w Duchu [Świętym] na pustyni" (Łk 4,1): przez to szczególne doświadczenie Jezus dał świadectwo swego całkowitego zawierzenia woli Ojca. Kościół proponuje wiernym przeżycie tego okresu liturgicznego, aby odnowili się wewnętrznie przez obcowanie ze słowem Bożym i mogli wyrazić w swoim życiu miłość, którą Chrystus rozlewa w sercach wierzących w Niego.

[...]

**2.** W tym roku pragnę poddać refleksji wszystkich wiernych słowa zaczerpnięte z Ewangelii św. Mateusza: "Pójdźcie, błogosławieni Ojca mojego, bo byłem ubogi i opuszczony, a przyjęliście Mnie!" (Mt 25,34-36).

Ubóstwo ma wiele znaczeń. Najczęściej oznacza brak wystarczających środków materialnych. Takie ubóstwo, które w życiu wielu naszych braci graniczy z nędzą, jest skandalem. Przybiera ono różnorakie formy, a jego przejawem jest wiele bolesnych zjawisk: niedostatek środków utrzymania i niezbędnej opieki zdrowotnej; brak domu lub nieodpowiednie warunki mieszkaniowe, czego konsekwencją jest zepsucie moralne; zepchnięcie najsłabszych na margines społeczeństwa i pozbawienie bezrobotnych udziału w systemie produkcji; samotność ludzi, którzy nie mogą liczyć na nikogo; sytuacja tych, którzy muszą uchodzić z własnych krajów, którzy cierpią na skutek wojny lub jej bolesnych konsekwencji; nierówności w systemie rozdziału wynagrodzeń; brak rodziny i jego groźne konsekwencje, takie jak narkomania i przemoc. Brak niezbędnych środków do życia poniża człowieka: wobec tego dramatu nie może pozostać obojętne sumienie tych, którzy są w stanie mu przeciwdziałać.

Istnieje także inne ubóstwo, równie groźne: polega ono na braku nie środków materialnych, ale pokarmu duchowego, odpowiedzi na najważniejsze pytania, nadziei na przyszłość. To ubóstwo ducha jest przyczyną bardzo dotkliwych cierpień. Na własne oczy oglądamy konsekwencje, często tragiczne, życia pozbawionego sensu. Ta forma nędzy występuje zwłaszcza w środowiskach, gdzie człowiek żyje w dobrobycie, gdyż może zaspokoić swoje potrzeby materialne, lecz pozbawiony jest drogowskazów duchowych. Potwierdzają się słowa Chrystusa wypowiedziane na pustyni: "Nie samym chlebem żyje człowiek, lecz każdym słowem, które pochodzi z ust Bożych" (Mt 4,4). W głębi serca człowiek poszukuje sensu, potrzebuje miłości.

Na tę formę ubóstwa trzeba odpowiedzieć głoszeniem – poświadczonym czynami – Ewangelii, która zbawia, która rozjaśnia nawet mroki cierpienia, ponieważ przynosi miłość i miłosierdzie Boże. Głód, który trawi człowieka, to w istocie rzeczy głód Boga: bez pociechy, którą On daje, człowiek jest pozostawiony samemu sobie, cierpi ubóstwo, ponieważ pozbawiony jest źródła autentycznego życia.

[...]

**4.** Każdy chrześcijanin czuje się powołany, aby dzielić trudy i cierpienia bliźniego, w którym ukrywa się sam Bóg. Jednakże otwarcie się na potrzeby brata wymaga okazania mu szczerej akceptacji, co jest możliwe tylko dzięki przyjęciu osobistej postawy ubóstwa w duchu. Nie istnieje bowiem tylko ubóstwo w sensie negatywnym. Jest także ubóstwo miłe Bogu, które Ewangelia nazywa "błogosławionym" (por.Mt 5,3). Dzięki niemu chrześcijanin potrafi dostrzec, że jego zbawienie pochodzi wyłącznie od Boga, gotów jest przyjąć brata i służyć mu, uznając go "za wyżej stojącego od siebie" (por.Flp 2, 3). Stan duchowego ubóstwa jest owocem nowego serca, które daje nam Bóg, zaś w okresie Wielkiego Postu owoc ten powinien dojrzewać dzięki konkretnym postawom, takim, jak duch służby, otwartość na potrzeby drugiego człowieka, pragnienie jedności z bratem, konsekwentna walka z pychą, która niszczy szacunek należny bliźniemu.

Ten klimat akceptacji bliźniego staje się tym bardziej konieczny, ponieważ w naszej epoce spotykamy się z wieloma różnymi formami odrzucenia innych. Bardzo groźnym tego przejawem jest problem milionów uchodźców i skazanych na wygnanie, zjawisko nietolerancji rasowej, wymierzonej nawet przeciw ludziom, lęk przed wszystkim, co jest inne i co tym samym postrzega się jako zagrożenie.

[...]

Wzywam każdego chrześcijanina, aby w okresie Wielkiego Postu dał widzialne świadectwo swego osobistego nawrócenia przez konkretny gest miłości okazanej człowiekowi w potrzebie, dostrzegając w nim oblicze Chrystusa, który jakby specjalnie do niego kieruje słowa: "Byłem ubogi, byłem opuszczony, a ty mnie przyjąłeś".

**5.** Również dzięki takim działaniom dla wielu ludzi zajaśnieje na nowo światło nadziei. Kiedy Kościół razem z Chrystusem służy człowiekowi w potrzebie, otwiera serce i pozwala im dostrzec – poza złem i cierpieniem, poza grzechem i śmiercią – nową nadzieję. Zło bowiem, które nas nęka, ogrom trudności, niezliczona rzesza cierpiących – wszystko to stanowi barierę, której ludzkimi siłami nie sposób pokonać. Kościół spieszy z pomocą, także materialną, aby pomóc rozwiązać te trudności, wie jednak, że może i powinien dawać wiele więcej: tym czego ludzi nade wszystko od niego oczekują jest słowo nadziei. Tam gdzie środki materialne nie są w stanie ulżyć cierpieniu, na przykład w przypadku choroby ciała lub ducha, Kościół głosi ubogiemu nadzieję, która pochodzi od Chrystusa.

[...]

W tajemnicy śmierci i zmartwychwstania Chrystusa dostrzegamy ukryte światło dla każdego człowieka. To wielkopostne Orędzie jest wezwaniem do otwarcia oczu na ubóstwo wielu. Ma też wskazywać drogę wiodącą do Paschy, na spotkanie z Chrystusem, który stając się pokarmem napełnia nasze serca ufnością i nadzieją. Życzę zatem, aby ten czas Wielkiego Postu 1998r. pomógł każdemu chrześcijaninowi stać się ubogim razem z Synem Bożym i jako narzędzie Jego miłości służyć bratu w potrzebie.

***(KAI)***



# ПАСТЫРСКІ ЛІСТ

## НАПЯРЭДАДНІ II СЕСІІ СІНОДУ

## (2-3 сакавіка, г. Баранавічы)

*"Аддаю ўсе сужэнствы і сем'і ў апеку Найсвяцейшай Сям'і з Назарэту"*

Умілаваныя дыяцэзіяне!

[...]

**2.** Тэма "Сужэнства і сям'я" патрабавала і патрабуе мабілізацыі ўсіх людзей, паколькі яна з'яўляецца вузлавой і цягне за сабою ўсе іншыя тэмы, якія падкідвае нам жыццё. Дзякуючы сінадальным сустрэчам і публікацыям, зроблены пэўны аналіз сітуацыі сужэнстваў і сем'яў у абедзвюх дыяцэзіяльных супольнасцях на Беларусі, які, у некаторай ступені, зрабіў больш чуйнымі многіх асобаў.

**3.** З дапамогаю гэтага пастырскага ліста хачу падзякаваць Пану Богу за вялікі дар сям'і і паспрыяць пашырэнню грона тых вернікаў, якія, даведаўшыся пра актуальны крызіс сужэнства і сям'і на Беларусі (разводы, аборты, алкагалізм), працуюць над вяртаннем незамянімай ролі сям'і ў прадаўжэнні жыцця і выхаванні – у фарміраванні аблічча грамадства гэтай зямлі – разумеючы, што сям'я – гэта падставовая ячэйка грамадства і гарант яго стабілізацыі, а таксама дарога да святасці яе членаў.

**4.** Дапамога і абарона сям'і – галоўны клопат Святога Айца Яна Паўла Другога і Апостальскай Сталіцы. Мы гэты клопат падзяляем. Далучаемся да гучнага голасу Папы, які падкрэслівае, што немагчымы ніякі чалавечы прагрэс і развіццё без суаднОсін з падставовымі этычнымі прынцыпамі, такімі, як захаванне годнасці кожнай чалавечай асобы ад моманту зачацця аж да натуральнай смерці, як прызнанне сям'і суб'ектам правоў, як бясспрэчнае права сям'і на рэлігійнае выхаванне яе членаў і гэтак далей.

**5.** Клопат Касцёла на Беларусі пра сям'ю не зводзіцца да сінадальнай акцыі і не скончыцца разам з пленарнай сесіяй, якая прысвечана сям'і. У многіх парафіях узнікаюць супольнасці сужонкаў, якія становяцца для Касцёла і для грамадства вялікаю надзеяй. Мы жадаем, каб гэты рух развіваўся.

Гэтыя сем'і грунтуюцца на салідным фундаменце хрысціянскіх прынцыпаў, а таксама на вялікай веры і давер'і, пакладзеным у Богу, як і на пачуцці сямейнай салідарнасці і шацунку да жыцця, становяцца сапраўднымі супольнасцямі ўзаемнай любові, радасці і аптымізму, – у бядзе і ў дастатку – даверу і адчування бяспекі, згоды, глыбокай павагі да старэйшых, вялікага пачуцця ўзаемаадказнасці за сябе і за дзяцей, шчырай паслухмянасці бацькам, імкнення дасягнуць лепшага свету.

Сем'і гэтыя адкрыты на патрэбы іншых асобаў, сямейных і парафіяльных супольнасцяў, на патрэбы Касцёла, грамадства, дзяржавы. Яны пачалавечы і па-хрысціянску дапамагаюць сабе і іншым няспынна ўзрастаць у веры, надзеі і любові – аж да пасвячэння. Гэта праяўляецца ў клопаце, каб не быць для сужонка прычынаю ці прыладаю грэху, у разумным і самаадданым набліжэнні Хрыста занядбанаму ў веры альбо няверуючаму, у супольным маленні, ва ўзаемнай малітве, у прыступанні да сакрамэнту паяднання, у супольным удзеле ў нядзельнай Святой Імшы, а калі гэта немагчыма, то ў іншы прыдатны дзень. Гэтыя сем'і ўсведамляюць, што недастаткова толькі даць жыццё дзецям, але трэба так спадарожнічаць дзіцяці ў фізічным, інтэлектуальным, маральным, эмацыянальным, сацыяльным, рэлігійным узрастанні, каб прывесці сваіх нашчадкаў да сталасці ў шырокім сэнсе. Яны ўсведамляюць, што гэта – іх неад'емны абавязак, г.зн. такі, ад якога нельга вызваліцца, даручыўшы выхаванне дзіцяці іншым.

**6.** Я веру, што душпастырства сем'яў, пра якое шмат гаварылася падчас пасяджэнняў Сінадальных груп, і, напэўна, яшчэ будзе шмат сказана падчас Пленарнай Сесіі, паспрые таму, каб усе сем'і сталі Касцёлам, і каб Касцёл штораз больш станавіўся сям'ёй, здольнай сеяць па Беларусі і ў свеце цывілізацыю любові.

**7.** Давяраючы дапамозе Святых Апекуноў нашага Сіноду рэалізаваць праграмы пасяджэнняў Другой Пленарнай сесіі, аддаю ўсе сужэнствы і сем'і абедзвюх дыяцэзіяльных супольнасцяў у апеку Найсвяцейшай Сям'і з Назарэту.

**8.** Дзякую ўсім сем'ям за пазіцыю людзей, веруючых у Бога, у Тройцы Святой Адзінага, якія даюць цудоўнае сведчанне Божай, хрысціянскай і каталіцкай сям'і, а ўсіх сардэчна прашу: трывайце на малітве ў інтэнцыі Сіноду. Маліцеся разам з намі:

***Прыйдзі, Дух Святы, удзялі Свае сем дароў усім пакліканым да працы ў Панскім Вінаградніку: святарам і дыяканам, кансэкраваным асобам, каб давалі сведчанне пра Валадарства Божае хрысціянскім сем'ям і ўсім вернікам, каб нашае жыццё было знакам новага чалавецтва, паяднанага ў праўдзе і любові, дзеля пашаны і хвалы Бога Айца. Прыйдзі, Дух Святы, – і аднаві аблічча зямлі. Амэн.***

Ад усяго сэрца благаслаўляю ўсіх вас: у імя Айца і Сына і Духа Святога. Амэн.

+ Kazimierz Card. Świątek

*Кардынал Казімір Свёнтэк,*
*Арцыбіскуп Мітрапаліт*
*Мінска-Магілёўскі,*
*Апостальскі Адміністратар*
*Пінскай дыяцэзіі*

# СІНОД МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ І ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ Ў СВЯТЛЕ ЯГО ПАСЛЯСАБОРАВЫХ КАНЦЭПЦЫЙ



*Гэты артыкул вельмі схематычны, але ён дапаможа наблізіцца да разумення такой цікавай з'явы ў жыцці Каталіцкага Касцёла, як сінод увогуле і наш – у прыватнасці.*

Пераломным момантам у гісторыі сінодаў з'яўляецца Другі Ватыканскі Сабор. Менавіта ён і ягоныя метады сталі не толькі галоўным прадметам увагі сінодаў, якія адбываліся потым, але таксама інспірацыяй з'яўлення новых канцэпцый сінода партыкулярнага (мясцовага, лакальнага. – *Заўв. рэдакцыі КН*) Касцёла.

У развіцці канцэпцыі сінода партыкулярнага Касцёла заўважныя тры кірункі: **кананічны, эклезіяльны і пастаральны** (яго называюць таксама душпастырскім). Адпаведна ў кожным з іх можна вылучыць: **дзейны суб'ект, мэту, падрыхтоўчы перыяд, легіслацыйны (заканатворчы) перыяд, структуру.**

Да Другога Ватыканскага Сабору сіноды партыкулярнага Касцёла былі кананічна-легіслацыйныя як па змесце, так і па форме. Яны, напрыклад, выпрацоўвалі законапраекты для дыяцэзіі, якія пасля разгляду зацвярджаў дыяцэзіяльны біскуп, і якія станавіліся дзейснымі законамі ў гэтым партыкулярным Касцёле. Для сінодаў жа, якія адбываліся пасля Другога Ватыканскага Сабору, характэрна імкненне да пашырэння кананічнай канцэпцыі. Разгледзім, у чым заключалася гэтае пашырэнне.

### 1. *Кананічны кірунак да Другога Ватыканскага Сабора*

*Дзейны суб'ект:* біскуп дыяцэзіі і прадстаўнікі духавенства партыкулярнага Касцёла.

*Мэта:* фармуляванне партыкулярнага закону.

*Падрыхтоўчы перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і эксперты працуюць на працягу некалькіх месяцаў альбо гадоў. Напрыклад, біскуп Зыгмунт Лазінскі склікаў Сінод Пінскай дыяцэзіі ў 1927г., а сінадальныя працы закончыліся ў 1929г.

*Легіслацыйны перыяд* працягваўся звычайна тры дні запар.

*Структура:* Цэнтральная Камісія разам з кіраўніком сінода і камісіі, скліканыя дыяцэзіяльным біскупам для апрацоўкі вызначаных ім тэмаў.

### *Кананічны кірунак адразу пасля Другога Ватыканскага Сабора*

*Дзейны суб'ект:* біскуп дыяцэзіі і ўсё духавенства, г.зн. усе святары партыкулярнага Касцёла. Назіральнікі – невялікая група свецкіх вернікаў, запрошаных дыяцэзіяльным біскупам.

*Мэта:* фармуляванне партыкулярнага закону.

*Падрыхтоўчы перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўсё духавенства партыкулярнага Касцёла, прадстаўляюць высновы, прапановы, праекты статутаў.

*Дыскусійны перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўсё духавенства партыкулярнага Касцёла выказваюць сваю ацэнку праекта статутаў, падрыхтаваных камісіяй на падставе матэрыялаў, атрыманых у часе "падрыхтоўчага перыяду".

*Легіслацыйны перыяд* працягваўся некалькі месяцаў і, нават, гадоў.

*Структура:* як і раней.

### 2. *Эклезіяльны кірунак ў 70-я гады*

*Дзейны суб'ект:* біскуп дыяцэзіі і ўвесь люд Божы партыкулярнага Касцёла.

*Мэта:* перадусім пошук адказаў на пытанні аб самасвядомасці партыкулярнага Касцёла, аб ягоных заданнях на сучасным этапе ўласнай гісторыі і гісторыі партыкулярнага Касцёла; напрыканцы – пастановы.

*Падрыхтоўчы перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўвесь люд Божы партыкулярнага Касцёла.

*Дыскусійны перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўвесь люд Божы партыкулярнага Касцёла.

*Легіслацыйны перыяд:* біскуп дыяцэзіі, святары, законніцы і законнікі, свецкія асобы, раўнапраўныя пры захаванні іерархічнай кампетэнцыі і прапарцыянальнасці.

*Структура:* Цэнтральная Камісія і тэрытарыяльныя Камісіі: парафіяльныя і дыяцэзіяльныя Сінадальныя Групы, Групы людзей з вызначанай спецыялізацыяй. Кіраўнікамі груп заўсёды былі святары, а іншыя вернікі – членамі. Групы ўносілі на сінод высновы і прапановы, а потым абмяркоўвалі падрыхтаваныя праекты пастаноў.

### 3. *Пастаральны (душпастырскі) кірунак*

*Дзейны суб'ект:* біскуп дыяцэзіі і ўся супольнасць партыкулярнага Касцёла (Сінадальная супольнасць). Усе ў якасці суб'екта, які праводзіць сінод, пазнаюць думку Божую ў надзённых пытаннях і вучацца быць Касцёлам.

*Мэта:* перадусім аднова партыкулярнага Касцёла, прыстасаванне душпастырства да новых патрэбаў, узрастанне веры, наданне дынамізму апосталь-

ству святароў і інстытутаў кансэкраванага жыцця, актывізацыя свецкіх вернікаў; напрыканцы – пастановы.

* *Заўвага:* з'яўляецца "выканаўчы элемент" – спроба рэалізаваць рашэнні ўжо ў часе працы сінода.

*Падрыхтоўчы перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўся супольнасць партыкулярнага Касцёла.

*Дыскусійны перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і ўся супольнасць партыкулярнага Касцёла.

*Легіслацыйны перыяд:* біскуп дыяцэзіі і асобы, вызначаныя новым Кодэксам Кананічнага Закона, абвешчаным 25 студзеня 1983г. Папам Янам Паўлам II (кан.460-468).

* *Заўвага:* прымаецца праграма сінадальнага душпастырства.

*Структура:* Цэнтральная Камісія і Сінадальныя Групы. Сінадальныя Групы ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы сінадальных дакументаў, у дыскусіях і творчых абмеркаваннях. Гэтыя Групы з'яўляюцца асяродкамі душпастырскай фармацыі і апостальства ў парафіях.

НАШ СІНОД

Мы жадаем, каб наш Сінод быў, па меры магчымасцяў, пастаральным.

*Дзейны суб'ект:* дыяцэзіяльны біскуп двух партыкулярных Касцёлаў і ўвесь люд Божы абедзвюх дыяцэзіяльных супольнасцяў. Мы ўсе стараемся пазнаць думку Божую ў разглядаемых пытаннях і вучымся быць Касцёлам, шукаем адказу на пытанні аб самасвядомасці партыкулярнага Касцёла, які ўтвараем, і аб ягоных заданнях на сучасным этапе ўласнай гісторыі і гісторыі паўсюднага Касцёла.

*Мэта:* перадусім аднова: "Аднавіць усё ў Хрысце" (пар.Флп 1,1), садзейнічаць таму, каб Хрыстус на гэтых землях яшчэ раз аб'явіўся як "Моц Божая і Мудрасць Божая" (1 Кар 1,24), стварэнне супольнасці, а потым – прыняцце пастаноў (падрабязней на гэту тэму гл. *Дэкрэт аб скліканні Сіноду*).

У часе сінадальных працаў прысутнічае "выканаўчы элемент".

*Падрыхтоўчы перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп і абедзве дыяцэзіяльныя супольнасці.

*Дыскусійны перыяд (творчых размоў):* дыяцэзіяльны біскуп і абедзве дыяцэзіяльныя супольнасці.

*Легіслацыйны перыяд:* дыяцэзіяльны біскуп дыяцэзіі і асобы, вызначаныя ім на падставе Кодэкса Кананічнага Закона; пленарныя сесіі.

У часе правядзення Сіноду рэалізуецца праграма сінадальнага душпастырства.

*Структура:* Каардынацыйная Камісія Сіноду, Сінадальная Літургічная Група, рэдакцыйныя Камісіі, Сінадальныя супольнасці. Сінадальныя супольнасці абмяркоўваюць падрыхтаваныя Каардынацыйнай Камісіяй тэмы, уносяць уласныя прапановы, з'яўляюцца асяродкамі душпастырскай фармацыі і апостальства ў парафіях, кансультацыйнымі асяродкамі.

**Дадатак**

**1.** Тэматыка Сіноду прапаноўваецца перадусім духавенству абедзвюх дыяцэзіяльных супольнасцяў.

**2.** Літаратурная форма апрацоўкі тэмаў будзе набліжана да катэхезы для дарослых.

**3.** Метад апрацоўкі тэмаў – катэхетычны. Аўтары апрацоўкі і ўсе ўдзельнікі працы Сіноду павінны ўлічваць тэалагічны, сацыялагічны, пастаральны і юрыдычны аспекты.

а) тэалагічны аспект – гэта Аб'яўленне Божае, Традыцыя і вучэнне Касцёла;

б) сацыялагічны аспект – гэта факталагічнае апісанне (пазітыўнае і негатыўнае) "справў", якія абмяркоўваюцца ў рамках сінадальнай тэматыкі;

в) пастаральны (душпастырскі) аспект – гэта прапановы аб паглыбленні пазітыўных і змяншэнні негатыўных з'яў і г.д., прапановы хрысціянскіх паводзінаў, апостальскіх заданняў, структур і г.д.;

г) юрыдычны аспект – гэта моц сінадальнага заканадаўства. У многіх тэмах дадзены аспект з'яўляецца толькі ў праекце выніковага дакумента.

**4.** Кожная сінадальная тэма ў працэсе падрыхтоўкі выніковага дакумента будзе праходзіць некалькі этапаў:

а) падрыхтаваны тэкст, прыняты Кардынацыйнай Камісіяй Сінода, публікуецца ў *Сінадальных матэрыялах*, якія выходзяць на беларускай і польскай мовах, і дасылаецца Сінадальным супольнасцям;

б) групы працуюць і інфармуюць асяроддзе аб тэматыцы і ходзе працы, рэалізуюць апостальскія заданні; затым пратаколы пасяджэнняў і справаздачы аб сваёй апостальскай працы дасылаюць Каардынацыйнай Камісіі;

в) Каардынацыйная Камісія абмяркоўвае пратаколы і справаздачы і склікае рэдакцыйную групу, якая рыхтуе праект і прадстаўляе яго Каардынацыйнай Камісіі;

г) Камісія знаёміцца з праектам і, пры неабходнасці, абмяркоўвае свае заўвагі з рэдакцыйнай групай і так апрацаваны праект накіроўвае ў Сінадальныя супольнасці.

д) групы дасылаюць праекты разам з сваімі заўвагамі Каардынацыйнай Камісіі, якая рыхтуе канчатковую версію праекта;

е) намеснік старшыні Каардынацыйнай Камісіі прадстаўляе біскупу дыяцэзіі падрыхтаваны праект і прапануе склікаць пленарную сесію;

ж) біскуп дыяцэзіі склікае сесію, калі палічыць праект вартым для апошняга абмеркавання і прававога рашэння.

**5.** Працу над агульнай тэмай будзе заканчваць пленарная сесія Сінода.

**6.** Кожная пленарная сесія завяршае пэўны этап працаў сінода і кожная можа быць апошняй, нават калі засталіся неапрацаванымі тэмы, запланаваныя напачатку сінода.

**7.** Пленарныя сесіі Сінода будуць праходзіць у розных месцах абодвух партыкулярных Касцёлаў.

**8.** Біскуп дыяцэзіі ўзначальвае Каардынацыйную Камісію.

**9.** У склад Каардынацыйнай Камісіі ўваходзяць 5 святароў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і 3 святары Пінскай дыяцэзіі.

**10.** Няма адказнага за Сінод і сакратара Сіноду, але ёсць намеснік старшыні Каардынацыйнай Камісіі.

**11.** Галоўнымі асяродкамі сінадальнай працы з'яўляюцца дэканальныя Сінадальныя Групы, якія супрацоўнічаюць з парафіяльнымі Сінадальнымі супольнасцямі.

***Кс.Станіслаў Паўліна fDP***



# КАМУНІКАТЫ
## пасяджэнняў
## Каардынацыйнай Камісіі Сіноду

9.01.1998г. у Баранавічах адбылося 19-е пасяджэнне Каардынацыйнай Камісіі Сіноду пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка. Пасяджэнню папярэднічала канцэлебраваная Святая Імша з гаміліяй і малітвай брэвяжовай.

**1.** Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі пагадзіўся з праектам **"Сужэнства і сям'я"** і вырашыў, што II Пленарная Сесія Сіноду адбудзецца ў Баранавічах у Доме Св.Тройцы (вул.Шаўчэнкі,6) 2-3 сакавіка 1998г.

**2.** Былі абмеркаваны: праграма II Пленарнай Сесіі Сіноду; сінадальнае душпастырства; карэспандэнцыя; арганізацыя выставы.

**3.** Быў абмеркаваны праект дакумента **"Падрыхтоўка да святарства і пастаянная фармацыя святароў"**.

**4.** Азнаёміліся са станам падрыхтоўкі праектаў наступных тэм Сіноду.

Пасяджэнне закончылася малітвай.

. . . . . . .

16 лютага 1998г. у Баранавічах адбылося 20-е пасяджэнне Каардынацыйнай Камісіі Сіноду пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка. Пасяджэнню папярэднічала канцэлебраваная Святая Імша і малітва брэвяжовая.

**1.** Прынята рашэнне адносна рэалізацыі праграмы II Пленарнай Сесіі Сіноду, якая адбудзецца ў Баранавічах 2-3.03.1998г.

**2.** Зацверджаны падрыхтаваны сінадальнай літургічнай групай "Сінадальны малітоўнік" і Праграма сінадальнага дня, прадугледжанага напярэдадні II Пленарнай Сесіі.

**3.** Была абмеркавана праграма галоўнай урачыстасці "Аднаўлення ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў на Беларусі" ў Мінскай архікатэдры 14 сакавіка 1998г. а 12-й гадзіне.

**4.** Абмяркоўваўся праект дакумента на тэму **"Інстытуты кансэкраванага жыцця ў Касцёле на Беларусі"**.

Пасяджэнне закончылася малітвай.

. . . . . . .

**Камунікат пасяджэння**
**Святарскай рады Пінскай дыяцэзіі**

10 лютага 1998г. у Новай Мышы адбылося чарговае пасяджэнне Святарскай рады Пінскай дыяцэзіі пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка.

Галоўнай тэмай пасяджэння была структура і дзейнасць "Caritas" на Беларусі і "Caritas" Пінскай дыяцэзіі ў прыватнасці. Быў абмеркаваны таксама шэраг душпастырскіх і персанальных спраў.

*кс.Станіслаў Паўліна fDP,*
*намеснік старшыні*
*Каардынацыйнай Камісіі Сіноду*

# KOMUNIKATY
## z posiedzeń
## Komisji Koordynacyjnej Synodu

Dnia 09.01.1998r. w Baranowiczach odbyło się XIX posiedzenie Komisji Koordynacyjnej Synodu pod przewodnictwem J. Em. Ks. Kazimierza Kardynała Świątka. Posiedzenie rospoczęto po Mszy św. koncelebrowanej z homilią i Modlitwie brewiarzowej.

**1.** Jego Eminencja Ksiądz Kazimierz Kardynał Świątek, Arcybiskup Metropolita Archidiecezji Mińsko-Mohylewskiej i Administrator apostolski Diecezji Pińskiej zaakceptował projekt schematu **"Małżeństwo i rodzina"** oraz zdecydował że II Sesja Plenarna Synodu odbędzie się w Baranowiczach, Dom Trójcy św., ul. Szewczenki 6, w dniach 2-3. marca 1998r.

**2.** Omówiono: program II Sesji Plenarnej Synodu; duszpasterstwo synodalne; korespondencię; wystawę.

**3.** Ustosunkowano się do opracowania pt. **"Przygotowanie do kapłaństwa i formacja stała kapłanów"**.

**4.** Zapoznano się ze stanem opracowań następnych tematów synodalnych.

Obrady zakończono modlitwą.

. . . . . . .

Dnia 16.02.1998r. w Baranowiczach odbyło się XX posiedzenie Komisji Koordynacyjnej Synodu. Obradom przewodniczył J.Em.Ks.Kazimierz Kardynał Świątek. Posiedzenie rospoczęto po Mszy św. koncelebrowanej i Modlitwie brewiarzowej.

**1.** Pojęto decyzje odnośnie do realizacji programu II. Sesji Plenarnej Synodu, która odbędzie się, jak zostało podane w poprzednim Komunikacie, w Baranowiczach dnia 2 i 3 marca 1998r;

**2.** Zatwierdzono opracowanie Synodalnej Grupy Liturgicznej "Modlitewnika synodalnego" oraz "Programu Dnia synodalnego, przewidzianego przed II. Sesją Plenarną;

**3.** Omówiono program Centralnej Uroczystości "Odnowienia w Chrystusie małżeństw i rodzin na Białorusi" w mińskiej katedddrze w dniu 14 marca 1998 r. o godz. 12.00;

**4.** Ustosunkowano się do opracowania pt. **"Instytuty życia konsekrowanego w Kościele na Białorusi"**.

Obrady zakończono modlitwą

. . . . . . .

**Komunikat z posiedzenia**
**Rady kapłańskiej Diecezji pińskiej**

Dnia 10 lutego 1998 r. w Nowej Myszy odbyło się kolejne posiedzenie Rady kapłańskiej Diecezji pińskiej. Obradom przewodniczył J.Em.Ks.Kazimierz Kardynał Świątek.

Głównym tematem obrad była struktura i działalność "Caritas" na Białorusi ze szczególnym uwzględnieniem "Caritas" Diecezji pińskiej. Omówiono także szereg spraw duszpasterskich i personalnych.

*Ks.Stanisław Pawlina fDP*
*wiceprzewodniczący*
*Komisji Koordynacyjnej Synodu*

# "ВЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ТВОРЦАМІ ЎЛАСНАЙ ГІСТОРЫІ, АСАБІСТАЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ", – СКАЗАЎ КУБІНЦАМ СВЯТЫ АЙЦЕЦ

***Візіт Святога Айца на Кубу рыхтаваўся амаль два гады. Як і сустрэча ў 1996г. Папы з Фідэлем Кастрам у Ватыкане, так і вестка пра запланаваны візіт сталі ў свой час сапраўднымі сенсацыямі. Вакол падрыхтоўкі падарожжа было шмат размоў, шмат розных меркаванняў. Візіту з нецярпеннем чакалі не толькі кубінскі Касцёл, не толькі палітыкі, не толькі хрысціяне. Ён аказаўся актуальным для многіх людзей, так ці йнакш звязаных з Кубай, перажыўшых сацыялізм, проста нераўнадушных да лёсу шматмільённага народу Вострава Свабоды. У выніку – ніколі Святога Айца ў падарожжы не суправаджала такая колькасць журналістаў, ніколі так шмат часу не прысвячалі Святому Айцу самыя буйныя тэлекампаніі свету. Па-рознаму яны асвятлялі падзеі тых дзён, найчасцей абмяжоўваліся канстатацыяй палітычных аспектаў візіту. Мы ж хочам прадставіць нашым чытачам гэту вельмі важную пілігрымку словамі Святога Айца, каб поўна і дасканала зразумець, што Папа хацеў сказаць кубінцам, а таксама і ўсім нам.***

Рэспубліка Куба – невялікая дзяржава, размешчаная на выспах недалёка ад паўвострава Фларыда (ЗША). Насельніцтва – 11 млн. чалавек, у сталіцы краіны Гаване пражывае 2,6 млн. чалавек. 15% усіх кубінцаў жыве па-за межамі радзімы, перадусім у ЗША і Іспаніі. Мова – іспанская. 32% кубінцаў з'яўляюцца католікамі, больш 10% вызнаюць анімістычныя і сінкрэтычныя культы, 1,4% пратэстанты, 48,7% не ідэнтыфікуюць сябе з якім-небудзь веравызнаннем, 6,4% – атэісты. Манаполія на палітычную ўладу ў краіне належыць камуністычнай партыі. Куба атрымала незалежнасць у 1909г., у 1959г. уладу захапілі партызаны-патрыёты на чале з Ф.Кастра, які дагэтуль застаецца нязменным кіраўніком дзяржавы.

## У ЧАКАННІ СВЯТОГА АЙЦА

Напярэдадні візіту Папы на прэс-канферэнцыі арцыбіскуп Гаваны кардынал Хаймэ Артэга падкрэсліў, што падарожжы Папы нельга нізводзіць толькі да палітычнага вымярэння. Ён зазначыў, што Ян Павел II прыедзе на Кубу, каб, перадусім, пабачыць Касцёл, які развіваўся, захоўваючы сваю веру і надзею, "веру, якая, можа, была пасіўная і схаваная, а цяпер стала рэчаіснасцю, якая ўсё больш праяўляецца апошнімі гадамі".

У той самы дзень, калі павінен быў пачацца візіт Папы на Кубу, італьянская каталіцкая газета *Avvenire* апублікавала інтэрв'ю з арцыбіскупам Жан-Луі Таранам, сакратаром па справах адносінаў з дзяржавамі, (г.зн. міністрам замежных спраў Ватыкана). "Апостальскія падарожжы Папы не з'яўляюцца ні падтрымкай рэжымаў ці ўрадаў, ні іх апраўданнем", – сказаў арцыбіскуп. Ён выказаў упэўненасць, што прафетычныя словы Папы могуць дапамагчы паспрыяць роздуму палітычных альбо грамадскіх спраў. "Калі ён гаворыць, то кажа пра універсальныя прынцыпы і заклік аб рахунку сумлення накіроўвае для ўсіх", – падкрэсліў арцыбіскуп Таран. На думку кіраўніка ватыканскай дыпламатыі, калі ўсё будзе добра, то "ўвесь свет пераканаецца, што ў выніку трывалага і адзначанага пашанай дыялогу можна паразумецца , а таксама, што рэлігія – гэта пачатак салідарнасці".



81-ы замежны візіт Папы пачаўся 21 студзеня. *"Я прыехаў як пілігрым любові, праўды і надзеі, каб даць новы імпульс евангелізацыйнай працы на Кубе"*, – сказаў Ян Павел II ў аэрапорце Гаваны. Святога Айца сустракала кіраўніцтва краіны на чале з прэзідэнтам Фідэлем Кастра і члены епіскапату разам з кардыналам Хаймэ Артэга. У прывітальнай прамове Фідэль Кастра акцэнтаваў увагу на выніках каланізатарскага панавання еўрапейцаў над кубінскім народам.

Пасля прагляду па тэлебачанні прывітання Яна Паўла II ў Гаване першы і апошні прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў сказаў: "Пабачыце, што ён пераменіць Фідэля Кастра". У інтэрв'ю для італьянскай газеты *La Stampa* Гарбачоў падзяліўся сваёй ацэнкай Папы: "Я бачу ў ім гуманіста, які выдатна зразумеў трагедыю камунізму і прычыны яго выраджэння. Таксама бачу чалавека, які вельмі добра зразумеў рэчаіснасць пэўнага тыпу капіталізму, яго жорсткасць, яго пустку, яго практычны матэрыялізм, абсалютна не лепшы за філасофскі матэрыялізм у пэўнай марксісцкай інтэрпрэтацыі. Я знаходжу ў ім чалавека, які абараняе правы асобы, права чалавека на жыццё. Бачу чалавека, які хоча, каб было менш жабрацтва, менш галодных, менш хваробаў, менш несправядлівасці ў свеце". На думку Гарбачова, "сотні мільёнаў людзей зразумее, што Ян Павел II выправіўся на Кубу, каб сказаць свету, што трэба скончыць з ізаляцыяй гэтай краіны, з эмбарга, з санкцыямі. Гэта падзея застанецца ў гісторыі. Ян Павел II нясе мір".

## СЯМ'Я — СЭРЦА ЛЮБОГА ГРАМАДСТВА, —

гэтыя словы Яна Паўла ІІ як найлепш характарызуюць змест пропаведзі, прысвечанай каштоўнасці непарушных і стабільных сем'яў і важнасці бацькоўства, якую Папа сказаў падчас сваёй першай Святой Імшы на Кубе ў горадзе Санта-Клара 22 студзеня. У ёй удзельнічала каля 120 тыс. кубінцаў. Лічба красамоўная, бо згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у горадзе толькі 2 тыс. чалавек з'яўляюцца практыкуючымі католікамі.

Нагадаўшы, што сам Бог устанавіў інстытут сям'і, Святы Айцец падкрэсліў, што *"сям'я паклікана да супрацоўніцтва з планам Божым і Яго справай стварэння праз лучнасць сужэнскай любові паміж мужчынай і жанчынай"*. Папа звярнуў увагу, што менавіта сям'я з'яўляецца скарбніцай духоўных дабрадзейнасцяў, і як прыклад прывёў сем'і кубінскіх продкаў, якія *"адрозніваліся, як і многія сучасныя сем'і, еднасцю, глыбокай пашанай да старых, высокім пачуццём адказнасці, шчырою паслухмянасцю бацьку і маці, радасцю і аптымізмам як у беднасці, так і заможнасці, жаданнем змагацца за лепшы свет, а перадусім вялікай верай і даверам Богу».*

Потым Ян Павел ІІ акцэнтаваў увагу на выкліках і крызісах, што пераследуюць сучасную сям'ю, якая з'яўляецца *"асноватворнай ячэйкай грамадства і гарантыяй яго стабільнасці"*. Сярод іх ён назваў прапагандаванне і нават абарону *"пад лозунгам свабоды і развіцця"* антынаталістычнага менталітэта (ад natus – лац. народжаны; Папа меў на ўвазе погляды, якія супярэчаць праву чалавека на жыццё ад самага пачатку. – *Рэд. КН*), *"схіляючы тым самым сужонкаў да такіх метадаў кантролю нараджальнасці, якія прыніжаюць годнасць чалавека. Даходзіць нават да аборту, які заўсёды з'яўляецца не толькі злосным злачынствам, але таксама абсурдным спусташэннем асобы і самога грамадства. У гэтай сітуацыі Касцёл вучыць, што Бог даручыў людзям місію пераказваць жыццё годным чалавека чынам, як плён адказнасці і сужэнскай любові"*, – падкрэсліў Папа.

Святы Айцец асудзіў разуменне мацярынства як архаічны перажытак ці абмежаванне свабоды жанчыны; такое разуменне знішчае "сапраўдную істоту і годнасць" жанчыны. Папа звярнуў увагу на тое, што матэрыяльныя цяжкасці, раздзяленне сем'яў у выніку эміграцыі, а таксама падмена выхаваўчай ролі бацькоў дзяржаўнымі структурамі ў працэсе вучобы ўдалечыні ад бацькоўскага дома адмоўна ўплываюць на трываласць сям'і і маральнасці на Кубе.

Як сродак перамагчы гэтыя балесныя з'явы Ян Павел ІІ указаў на Езуса, бясконцай мудрасці і ўлады Якога не зможа замяніць ніводная ідэалогія. *"Таму неабходна адшукаць рэлігійныя каштоўнасці ў сямейным і грамадскім асяроддзі, ажыўляючы практыку дабрадзейнасцяў, якія характарызавалі пачаткі кубінскага народу ў працэсе будавання яго будучыні "з усімі і для дабра ўсіх"*, – дадаў Папа, цытуючы народнага героя і паэта Хасэ Марці, і падкрэсліў: *"Сям'я, школа і Касцёл павінны ствараць выхаваўчую супольнасць, у якой дзеці Кубы маглі б узрастаць у чалавечнасці. Не бойцеся, адкрыйце сем'і і школы для каштоўнасцей Евангелля Езуса Хрыста, якія не з'яўляюцца пагрозай ні для якіх грамадскіх праграм"*. – Гэтыя словы выклікалі бурную авацыю сабраных.

У наступнай частцы казання Папа нагадаў, што Касцёл жадае ахоўваць і прапаноўваць сваім дзецям і ўсім людзям добрай волі праўду пра важнейшыя вартасці хрысціянскага сужэнства і сям'і. Ён падкрэсліў непарыўнасць і непарушнасць сужэнства, роўнасць правоў і абавязкаў абодвух сужонкаў, а таксама казаў аб ролі бацькоў як першых і галоўных настаўнікаў сваіх дзяцей і пра тое, што гэтую ролю ніхто і нішто не здолее падмяніць.

На заканчэнне прамовы Святы Айцец заклікаў: *"Куба, дбай пра ўласныя сем'і, каб захаваць здаровым сваё сэрца!"* – і дадаў словы, якіх спачатку не было ў тэксце прамовы: *"Я хачу паўтарыць словы Хасэ Марці: "Трэба будаваць будучыню разам з усімі і для дабра ўсіх. Сям'я, школа і Касцёл павінны фарміраваць грамадства, якое выхоўвае дзяцей у чалавечнасці».*(8-с.44)

У Санта-Клара Ян Павел ІІ, – падкрэслівалі каментатары, – так шмат казаў аб праблеме абортаў не толькі таму, што яны – сапраўдная ганьба Кубы, але таксама і з прычыны 25-годдзя легалізацыі абортаў у ЗША. У той самы час, калі Папа прамаўляў у Санта-Клара, у Вашынгтоне адбываўся марш пратэсту супраць абортаў, у якім удзельнічала каля 400 тыс. амерыканцаў.

Пасля заканчэння Імшы Папа прывітаў і благаславіў кожнага з 117 кубінскіх святароў, у т.л. некалькіх усходняга абраду. Быў гэта асаблівы знак і выраз падзякі тым, хто, нягледзячы на пераслед, не спынілі душпастырскай працы.

Яшчэ адной важнай падзеяй другога дня візіту Папы на Кубу стала яго сустрэча з кіраўніком дзяржавы Ф.Кастра. Пасля гэтай размовы не было зроблена ніякіх афіцыйных паведамленняў, але вядома, што Папа папрасіў кубінскага лідэра аб вызваленні некаторых палітычных вязняў.

## ХРЫСТУС – НАДЗЕЯ ДЛЯ ЎСІХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ

Амаль 250 тыс. чалавек, што нашмат больш, чым чакалі арганізатары, удзельнічалі 23 студзеня ў Св.Імшы ў горадзе Камагаё. Гэта Імша стала спатканнем Святога Айца з кубінскай моладдзю, што з вялікім энтузіязмам вітала Папу. Ян Павел ІІ ў сваёй гаміліі заклікаў моладзь смела ставіць перад сабой жыццёвыя патрабаванні, не выракацца веры і ідэалаў, а будаваць уласную будучыню і будучыню Кубы. Пасля заканчэння гаміліі адбыўся абрад аднаўлення хросту і прысягаў бежмавання. Моладзь паўтарала за Папам словы вызнання веры, а пасля склала абеты вернасці Богу. "Ці абяцаеце давяраць Богу і служыць любові?" – запытваў Папа, а моладзь адказвала: "Абяцаем!" "Ці абяцаеце шукаць свабоды справядлівасці і спакою для ўсяго кубінскага народа?" – "Абяцаем!" – паўтаралі маладыя людзі. Папа дзякаваў маладым людзям, што адкрылі свае сэрцы і, нягледзячы на спякотнае сонца, прыйшлі на сустрэчу. *"Гэтае сонца нагадвае Хрыста, які дае нам жыццё"*, – сказаў Папа напрыканцы Святой

Імшы ў Камагаё і паўтарыў адзін з першых заклікаў свайго пантыфікату: *"Не бойцеся адкрыць Хрысту вашы сэрцы для Езуса!.. Цяпер няхай гэта будзе вашай праграмай, праграмай для ўсёй кубінскай моладзі. Памятайце, што Езус любіць вас!"*

Святы Айцец пачаў сваю гамілію цытатай з Паслання св.Паўла да Рымлянаў: *"Не будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабром"* (пар.Рым 12, 21). Ён падкрэсліў, што "маладыя кубінцы *збіраюцца цяпер з Папам, каб святкаваць сваю веру і выслухаць Слова Божае, якое ёсць шляхам выйсця са зла і цемры,*

*і гэткім чынам апранущца ў зброю святла, каб рабіць дабро".*

*"Таленты, якія вы атрымалі ад Пана і якія вядуць да ахвярнасці, да сапраўднай любові і велікадушнасці, прыносяць плён тады, калі жывеш не толькі матэрыяльным і тленным, але "ўсякім словам, якое паходзіць з вуснаў Божых» (пар.Мц 4,4) Таму заахвочваю вас быць чулымі на любоў Хрыста і ўсведамляць, што Ён зрабіў для вас, для ўсяго чалавецтва, для мужчын і жанчын усіх часоў. Адчуваючы, што Ён любіць вас, самі зможаце любіць па-сапраўднаму"*, – падкрэсліў Папа.

Ён заклікаў маладых жыць у чыстасці, *"гэта значыць – жыць сваім жыццём згодна з маральнымі нормамі Евангелля, якія абвяшчае Касцёл»*. Пры гэтым Папа выказаў шкадаванне, што "цяпер многія *лёгка трапляюць у маральны рэлятывізм, а многія маладыя людзі – ахвяры пазбаўленых сэнсу культурных стэрэатыпаў альбо ідэалогіі, якія не ставяць высокіх і выразных маральных патрабаванняў, – трацяць сваю тоеснасць. Гэты маральны рэлятывізм нараджае эгаізм, падзелы, маргіналізацыю, дыскрымінацыю, страх і недавер іншым"*. Святы Айцец звярнуў увагу, што "малады хрысціянін, які жадае *весці "чыстае жыццё", моцна закаранёнае ў сваёй веры, ведае, што ён пакліканы і абраны Хрыстом, каб жыць у сапраўднай свабодзе дзяцей Божых, якая нясе з сабой шматлікія выклікі"*.

Папа падкрэсліў, што вера і маральныя паводзіны непадзельныя. *"Дарагая моладзь, веруючыя і няверучыя, прыміце заклік да цнатлівасці. Гэта значыць, што вы павінны быць унутрана моцнымі, велікадушнымі, багатымі на найлепшыя пачуцці, адважнымі ў праўдзе, мужнымі ў свабодзе, сталымі ў адказнасці, шчодрымі ў любові, непераможнымі ў надзеі. Не чакайце ад іншых таго, на што вы самі здольныя, кім павінны быць і што рабіць. Не адкладайце на заўтра будавання новага грамадства, дзе самыя шляхетныя мары не будуць разбіты і дзе вы зможаце быць творцамі сваёй гісторыі"*, – заклікаў кубінскую моладзь Ян Павел II.



## У ПОШУКУ ДУХОЎНЫХ КАРАНЁЎ КУЛЬТУРЫ

У сваёй прамове да прадстаўнікоў культуры 23 студзеня ў Гаванскім універсітэце Папа Ян Павел II акцэнтаваў увагу на неабходнасці дыялогу паміж Касцёлам і культурнымі інстытутамі краіны. Ён падкрэсліў, што культура мае фундаментальнае значэнне для жыцця народаў і для развіцця сапраўдных чалавечых каштоўнасцяў.

Спачатку Папа разам з кардыналам Артэга і членамі ватыканскай дэлегацыі падышоў да месца, дзе захоўваюцца парэшткі а.Фелікса Варэля. Там Папа правёў некаторы час у маўчанні.

*"Каталіцкі Касцёл не атаясамляе сябе канкрэтна з ніводнай культурай, але набліжаецца да ўсіх іх у духу адкрытасці. Прапануючы ўласнае бачанне чалавека і каштоўнасці, Касцёл удзельнічае ў пастаяннай гуманізацыі грамадства"*, – сказаў Святы Айцец. Адначасова ён нагадаў, што ядром кожнай культуры з'яўляюцца рэлігійныя перакананні і маральныя каштоўнасці, якія ствараюць як бы яе "душу". *"У Хрысце кожная культура з'яўляецца глыбока шануемай, прызнанай і любімай, бо кожная культара заўсёды адкрыта на найбольш аўтэнтычную частку самой сябе – на скарбы Адкуплення"*, – падкрэсліў Ян Павел II.

У гэтым кантэксце Святы Айцец нагадаў постаць а.Фелікса Варэля, якога многія лічаць "вуглавым камянём кубінскай народнасці". Гэты пабожны святар з Гаваны, кубінскі патрыёт, мысліцель і прадвеснік новых педагагічных метадаў, стаў настаўнікам для цэлых пакаленняў кубінцаў, якіх выхоўваў у духу свабоды і адказнасці, ідэй дэмакратыі і больш справядлівага і салідарнага грамадства.

Папа падкрэсліў, што спадчына а.Варэля – шуканне ў Хрысце шляху, які вядзе да больш справядлівага, чалавечага і салідарнага грамадства, – была ўспрынята паэтам Хасэ Марці, народным героем Кубы, які карыстаецца шанаваннем таксама кубінскіх рэвалюцыянераў. Святы Айцец выказаў перакананне, што кубінскі народ узяў у спадчыну ад гэтых герояў чалавечыя каштоўнасці, якія маюць у сабе хрысціянскую аснову.

*"Можна казаць пра плённы культурны дыялог на Кубе, які з'яўляецца гарантыяй гарманічнага развіцця і з'яўлення ініцыятыў, а таксама крэатыўнага* (г.зн. здольнага да самаразвіцця і тварэння. – *Рэд.КН) грамадства"*, – адзначыў Ян Павел II і дадаў, што *"Касцёл і культурныя інстытуты нацыі павінны сустрэцца ў дыялогу і такім чынам супрацоўнічаць у развіцці кубінскай культуры. Абодва бакі ідуць тым самым шляхам і маюць аднолькавую мэту: служыць чалавеку, развіваць усе вымярэнні яго духу і знутры ажыўляць усе супольныя і грамадскія стасункі"*, – сказаў напрыканцы Святы Айцец. Звяртаючыся да асобы а.Варэля, ён дадаў, што фундаментам нацыі з'яўляецца дабрадзейнасць, якая ў сваю чаргу не будзе існаваць без рэлігіі. *"Веру*, – сказаў Папа, – *што ў будучыні кубінцы пабудуюць прававое грамадства, цывілізацыю салідарнасці і міру, праўды і любові, якая, як сказаў а.Варэль, будзе фундаментам для вялікага гмаху нашага шчасця"* (8-с.43).

## СОЛЬ І ЗАКВАСКА ГРАМАДСТВА

*"Касцёл, прысутны ў грамадстве, для выканання сваёй місіі не шукае палітычнай улады ні ў якім выглядзе, але праз сваё існаванне ў грамадскіх структурах хоча быць плённым насеннем супольнага дабра. Найважнейшае значэнне ён надае чалавечай асобе і супольнасці, у якой той жыве, ведаючы, што фундаментальным шляхам Касцёла з'яўляецца канкрэтны чалавек са сваімі патрэбамі і памкненнямі"*, – сказаў Ян Павел II 24 студзеня падчас Св.Імшы ў Сант'яга-дэ-Куба, другім па велічыні горадзе краіны і калысцы кубінскай незалежнасці і рэвалюцыі. Таксама падчас Імшы Папа каранаваў абраз Маці Божай Міласэрнасці з Кабрэ, апякункі Кубы.

У пантыфікальнай літургіі ўдзельнічала да 300 тыс. вернікаў. На яе пачатку Папу прывітаў мясцовы біскуп Пэдра Клара Мэўрыке, які, між іншым, востра крытыкаваў рэжым Фідэля Кастра: "Кубінскі народ, які ў многіх выпадках жыве ў бядзе і цярпеннях, здолее адкінуць фальшывых месій. Мы – народ, які хоча ствараць салідарнасць, сяброўства і свабоду". Гэтыя словы выклікалі апладысменты вернікаў.

У сваёй гамілії Святы Айцец шмат казаў пра марыйную пабожнасць і ролю Касцёла ў грамадскім жыцці краіны. Ён звярнуўся да асобы Марыі як да прыкладу пакоры, паслухмянасці і вернасці Богу. Затым адбыўся акт аддання кубінскага народу Маці Божай з Кабрэ і Папа абвясціў яе валадаркай і апякункай Кубы.

Ян Павел II нагадаў, што свецкія каталікі, баронячы сваю тоеснасць, каб быць соллю і закваскай у грамадстве, *"павінны і маюць права ўдзельнічаць у грамадскай дыскусіі на роўных правах з пазіцыі дыялогу і паяднання"*.

Папа працытаваў словы кубінскага героя Антоніо Макеа: *"Хто не любіць Бога, той не любіць бацькаўшчыны"*, – і падкрэсліў, што *"Касцёл заклікае ўсіх да ўцелаўлення веры ў сваім жыцці, што з'яўляецца найлепшым шляхам да гарманічнага развіцця чалавечай істоты, створанай на вобраз і падабенства Бога, і да сапраўднай свабоды, якая ахоплівае шанаванне правоў чалавека і сацыяльнай справядлівасці"*.

Святы Айцец падкрэсліў неабходнасць дапамогі справе евангелізацыі, якая праводзіцца цяпер у многіх месцах, прыкладам чаго з'яўляюцца місіі ў гарадскіх раёнах і вёсках, дзе няма касцёла, "каб яны маглі развівацца і служыць не толькі каталікам, але і ўсяму кубінскаму народу, каб ён спазнаў і палюбіў Касцёл" (8-с51).

Напрыканцы Св.Імшы Папа паведаміў пра свой падарунак для Касцёла на Кубе: аб стварэнні яшчэ адной, адзінаццатай па ліку, дыяцэзіі на востраве.

## СЭНС ЦЯРПЕННЯ

Увечары таго ж дня падчас Св.Імшы ў санктуарыі св.Лазара ў гаванскім прадмесці Эль-Рыкон Ян Павел II прывітаў хворых, старых, самотных, а таксама лекараў і апекуноў тых, хто ў патрэбе, і выказаў сваю салідарнасць з палітычнымі вязнямі на Кубе.

*"Кожная чалавечая істота ў той ці іншай форме дазнае боль і цярпенне ў сваім жыцці і не можа не задумацца над яго значэннем. Боль – гэта таямніца чалавечай асобы, што становіцца зразумелай толькі ў Езусе Хрысце, які адкрывае чалавеку яго тоеснасць. Толькі ў Хрысце мы зможам знайсці сэнс усяго, што ўласціва чалавеку.* [...] *На пытанне пра сэнс цярпення Хрыстус не адказвае наўпрост і не адказвае абстрактна. Чалавек прымае Яго збаўчы адказ па меры таго, як ён становіцца ўдзельнікам цярпенняў Хрыста. Адказ, які прыходзіць праз гэты ўдзел... ёсць заклікам "Пойдзем са Мной! Ідзі!.."* (Salvifici doloris, №26) *«Гэта сапраўдны сэнс і каштоўнасць цярпення, цялеснага болю. Гэта Добрая Вестка, якую хачу вам перадаць»*, – сказаў Ян Павел II.

*"Хрысціянскае вымярэнне цярпення не абмяжоўваецца толькі яго глыбокім значэннем і яго збаўчым характарам. Боль заклікае да любові, а значыць ён павінен нараджаць салідарнасць, прысвячэнне сябе, велікадушнасць і ў тых, хто церпіць , і ў тых, хто адчувае сябе пакліканым апекавацца імі і дапамагаць ім у цярпеннях.* [...]

*Сям'я, школа, іншыя выхаваўчыя інстытуты , хаця б толькі з гуманістычных меркаванняў, павінны нястомна працаваць, каб абуджаць і дасканаліць чуласць да бліжняга і яго цярпенні: сімвалам такой чуласці ёсць асоба самараніна. Гэта практычны сэнс прыпавесці аб міласэрным самараніне, як і сэнс усяго Евангелля: чалавек павінен адчуваць сябе асабіста пакліканым да сведчання любові ў цярпенні. "Інстытуты вельмі важныя і неабходныя, аднак ніводны інстытут не зможа падмяніць сэрца, чалавечага спачування, чалавечай любові, чалавечай ініцыятывы, калі трэба выйсці насустрач цярпенню іншага чалавека* (тамсама, 29).

*Гэта адносіцца да фізічных цярпенняў, але яшчэ большае значэнне мае ў дачыненні да разнастайных маральных і духоўных цярпенняў. Таму, калі церпіць чалавек у сваёй душы, альбо калі церпіць душа народа, то гэты боль павінен заахвочваць да салідарнасці, справядлівасці, будавання цывілізацыі праўды і любові"*, – сказаў Папа падчас Св.Імшы для інвалідаў і іх апекуноў у прадмесці Гаваны.

## "САЦЫЯЛЬНАЕ ЕВАНГЕЛЛЕ"

*"Ні атэізм, ні рэлігію сучасная дзяржава не павінна рабіць сваім палітычным ладам"*, – сказаў Папа Ян Павел ІІ 25 лютага, звяртаючыся да мільёна вернікаў, прэзідэнта краіны Ф.Кастра, кіраўнікоў кубінскага ўрада і камуністычнай партыі, якія ўдзельнічалі ў Св.Імшы на плошчы Рэвалюцыі ў Гаване. Замест камуністычнай сімволікі і традыцыйнага тут партрэта куміра рэвалюцыянераў Чэ Гевара з лозунгам "Заўсёды аж да перамогі" плошчу ўпрыгожваў вялікі абраз Сэрца Езуса са словамі: "Давяраюся Табе".

Вітаючы на пачатку Імшы Святога Айца, арцыбіскуп Х.Артэга запэўніў: "Мы ўсе адкрываем сэрцы на свабоду, якую можа даць толькі Хрыстус... Кубінцы прагнуць лепшай, больш справядлівай будучыні".

Святы Айцец, падкрэсліваючы, што прыбыў як пасланец любові і салідарнасці, адзначыў, што сучасная дзяржава, не паддаючыся фанатызму ці надуманаму секулярызму, павінна садзейнічаць клімату свабоды, у якім рэлігійная вера магла б свабодна ўзрастаць і ўзбагачаць жыццё народу духоўнымі, маральнымі і грамадскімі скарбамі. *"Ідэалагічныя і эканамічныя сістэмы, якія змянялі адна адну ў апошнія стагоддзі, часта рабілі стаўку на канфрантацыю як метад, бо ў іх праграмах былі зерне супраціву і разбурэння. Некаторыя з гэтых сістэм намагаліся звесці рэлігію толькі да прыватнай сферы, пазбаўляючы яе ўсякага ўплыву ці грамадскага значэння... З другога боку, у многіх месцах развіваецца пэўная форма капіталістычнага неалібералізму, які падначальвае асобу чалавека і развіццё народаў робіць залежным ад сляпых сіл рынка, пры дапамозе сваіх цэнтраў улады накладаючы невыносны цяжар на краіны, якім пашчасціла меней... Такім чынам, мы з'яўляемся сведкамі празмернага абагачэння нямногімі за кошт узрастаючага збяднення многіх, так што заможныя становяцца багацейшымі, а бедныя – з кожным разам бяднейшымі»*, – сказаў Ян Павел ІІ.

Звяртаючыся да вернікаў, Папа падкрэсліў, што Касцёл – гэта настаўнік чалавецтва ў дабрадзейнасцях і таму *"прапануе культуру любові і жыцця, вяртаючы чалавецтву надзею і перамяняльную моц любові"*. Усе гэтыя словы няраз перарываліся радаснай рэакцыяй прысутных вернікаў. Адклаўшы падрыхтаваны тэкст, Папа, прамовіў: "Гэта сацыяльнае Евангелле".

Чалавек пакліканы здабываць свабоду дзіцяці Божага. Гэта вызваленне, якое абапіраецца на пачуццё адказнасці, *"не абмяжоўваецца сацыяльным ці палітычным аспектам, але знаходзіць сваю паўнату ў карыстанні свабодай сумлення, якая з"яўляецца падставай і фундаментам усіх правоў чалавека"*, – заявіў Папа.

*"Для многіх існуючых цяпер палітычных і эканамічных сістэмаў найвялікшым выклікам надалей застаецца спалучэнне свабоды і сацыяльнай справядлівасці, свабоды і салідарнасці такім чынам, каб нішто з іх не было адсунута на другі план"*, – сказаў Ян Павел ІІ. У гэтым працэсе можа дапамагчы сацыяльнае вучэнне Касцёла, якое па сутнасці з'яўляецца намаганнем спалучыць неад'емныя правы кожнага чалавека з патрабаваннямі грамадства.

Звяртаючыся да кубінскай нацыянальнай традыцыі, Святы Айцец у чарговы раз узгадаў асобу а.Фелікса Варэля, які *"пасеяў у сэрцы кубінскага народу насенне справядлівасці і свабоды, марачы аб яго росквіце ў свабоднай і незалежнай Кубе"*. Папа ўзгадаў таксама паэта Хасэ Марці, "навучанне якога пра любоў паміж усімі людзьмі мае глыбокія евангельскія карані і тым самым перамагае надуманы канфлікт веры ў Бога і служэння бацькаўшчыне", – і працытаваў словы паэта, што *"кожны народ павінен быць рэлігійны... Народ нерэлігійны асуджаны на выміранне, бо нішто ў ім самім не ажыўляе цноты"*.

*"У Кубы хрысціянская душа"*, – асабліва падкрэсліў Ян Павел ІІ, дадаўшы, што цяпер пакліканнем Кубы з'яўляецца выхад з ізаляцыі і адкрыццё для свету. Са свайго боку свет таксама павінен наблізіцца да Кубы, да яе людзей, да яе дзяцей, якія, несумненна, з'яўляюцца найвялікшым багаццем гэтай краіны.

*"Цяпер час, калі трэба пайсці па новых шляхах"*, – заклікаў Святы Айцец, падкрэсліўшы, што гэтага патрабуюць часы аднovы у набліжэнні трэцяга тысячагоддзя. *"Я паміж вамі як пасланец праўды і надзеі. Таму прагну паўтарыць мой заклік, каб дазволілі Езусу Хрысту асвяціць вас, прынялі без сумненняў Яго праўду, каб усе маглі пайсці шляхам еднасці праз пасрэдніцтва любові і салідарнасці, пазбягаючы выключэння [з грамадства], ізаляцыі і канфрантацыі, якія супярэчаць волі Бога-Любові"*, – на заканчэнне сказаў Ян Павел ІІ.

Пасля гаміліі, звяртаючы ўвагу на парывы ветру, Папа адзначыў: *"Гэты вецер, які мы адчуваем цяпер, мае вялікі сэнс. Ён сімвалізуе Духа Святога, а гэта значыць – Дух Святы жадае веяць на Кубе!"*.

Апошнія гадзіны прабывання на Кубе Святы Айцец прысвяціў дзвюм сустрэчам: першая адбылася з мясцовымі біскупамі, другая – са святарамі, законніцамі і законнікамі. Напярэдадні ад'езду Папа ўдзельнічаў таксама ў традыцыйным для сваіх падарожжаў спатканні з прадстаўнікамі іншых рэлігійных супольнасцяў краіны.

Падчас сустрэчы з біскупамі Папа заахвоціў іх быць цярплівымі і настойлівымі ў імкненні да рэлігійнай свабоды на Кубе. Ён падкрэсліў, што Касцёл павінен мець права карыстацца ўсім спектрам сродкаў, неабходных для абвяшчэння Евангелля, абароны справядлівасці і міра, садзейнічання гарманічнага развіцця асобы чалавека. У ліку найважнейшых мэтаў, якія стаяць перад кубінскім Касцёлам, Ян Павел ІІ назваў вяртанне поўнага шанавання дару жыцця, абарону інстытута сям'і і адпаведнаую ў тым дапамогу, выхаванне моладзі ў духу сапраўдных каштоўнасцяў, а таксама забеспячэнне будучым святарам як мага лепшага інтэлектуальнага, чалавечага і духоўнага фарміравання.

*"Дарагія браты, – звярнуўся да святароў Папа, – кубінскі народ патрабуе вас, бо патрабуе Бога, асновы жыцця. Будучы часткай гэтага народа, пакажыце яму, што толькі Хрыстус ёсць Шляхам, Праўдай і Жыццём, што толькі Ён мае слова вечнага жыцця"*.

***Паводле паведамленняў КАІ***

# *У Ватыкане адбыўся сімпозіум на тэму:* ***"Карані антыюдаізму ў хрысціянскім асяроддзі"***


Малітва падчас сімпозіума ў Ватыкане

30 кастрычніка мінулага года кардынал Роджэр Эчэгары і тэолаг Папскага Дому а.Жорж Кацье афіцыйна адкрылі ў Ватыкане сімпозіум на тэму "Карані антыюдаізму ў хрысціянскім асяроддзі". Сустрэча, якая сабрала каля 60 вядомых хрысціянскіх тэолагаў і гісторыкаў, выклікала вялікую цікавасць у свеце.

Пачынаючы сімпозіум, кардынал Эчэгары, старшыня Камітэту святкавання Вялікага Юбілею 2000 Года, сказаў, што выбар тэрміну "антыюдаізм" азначае акцэнт на рэлігійнай матывацыі, а яна нашмат больш небяспечная, чым звычайныя расісцкія альбо палітычныя матывы. Кардынал падкрэсліў, што дэкларацыя Другога Ватыканскага Сабору *Nostra Aetate* пра адносіны Касцёла да нехрысціянскіх рэлігіяў стала тым дакументам, які абудзіў хрысціянска-габрэйскі дыялог. Але гэты дыялог будзе заставацца павярхоўным да таго часу, пакуль хрысціяне і габрэі не звернуць увагу на рэлігійную сутнасць іх лучнасці, – заявіў ватыканскі іерарх. Гаворачы, што праца сімпозіуму, згодна з жаданнем Святога Айца, павінна служыць падрыхтоўкай да Вялікага Юбілею 2000 Года, кардынал Эчэгары адзначыў, што перад удзельнікамі сімпозіуму стаіць няпростая задача вывучыць праблемы, якія накапіліся на працягу стагоддзяў, пачынаючы ад новазапаветных тэкстаў.

Адказваючы на рэпліку аб адсутнасці на сімпозіуме габрэйскіх тэолагаў, а.Жорж Кацье звярнуў увагу на тое, што пытанне антыюдаізму датычыць каталіцкай тэалогіі і павінна быць вывучана як унутрыкасцёльная праблема ў рамках каталіцкага рахунку сумлення.

"Трохдзённыя пасяджэнні трэба разглядаць як этап доўгага шляху," – чытаем напрыканцы паведамлення для прэсы па выніках сімпозіуму. У ім падкрэсліваецца той факт, што сустрэча адбылася ў Ватыкане, і гэта з'яўляецца "надзвычай важнаю акалічнасцю, якая дае надзею на будучыню дыялога паміж габрэямі і хрысціянамі". У дакуменце падкрэсліваецца таксама, што для ўдзельнікаў сімпозіуму "пастаянным зыходным пунктам, дактрынальным і пастырскім" было "навучанне і асабістае сведчанне Святога Айца".

Камунікат звяртае ўвагу на тое, што "навуковы сімпозіум збіраўся не для выдання якой-небудзь дэкларацыі альбо падрыхтоўкі нейкіх дакументаў. Асноўнай мэтай працы была падрыхтоўка матэрыялаў, якія будуць перададзены Святому Айцу".

Шматлікія габрэйскія асяродкі чакаюць, што дзякуючы ў т.л. і гэтаму сімпозіуму, Папа выдасць дакумент аб адносінах хрысціянства да антысемітызму, у якім прыгадае ўскосную адказнасць католікаў за знішчэнне габрэяў у гады II сусветнай вайны.

*(Паводле КАІ)*

# *Антысемітызм варты асуджэння*

*З прамовы Папы Яна Паўла II да ўдзельнікаў сімпозіуму "Карані антыіюдаізму ў хрысціянскім асяроддзі", які адбыўся 30кастрычніка – 1 лістапада 1997г.*

*Кардыналы, дарагія браты ў біскупстве, дарагія сябры!*

1. (...) Ваш калоквіум з'яўляецца этапам да падрыхтоўкі Вялікага Юбілею. У сувязі з ім я заклікаў сыноў Касцёла ў духу неабходнага рахунку сумлення падвесці вынік мінаючага стагоддзя і асабліва нашага стагоддзя, што распачынае перыяд, які павінен стаць часам навяртання і паяднання (гл.*Tertio Millennio adveniente*, №27-35).

Прадметам вашага сімпозіуму з'яўляецца правільная тэалагічная інтэрпрэтацыя стасункаў Хрыстовага Касцёла і габрэйскага народу, падставы для якой стварыла саборавая дэкларацыя *Nostra Aetate*. У часе спаўнення мною служэння магістэрыя [Касцёла], я меў нагоду шматразова звяртацца да іх. Сапраўды, у хрысціянскім свеце, але не ў Касцёле як такім, занадта доўга жылі памылковыя і несправядлівыя інтэрпрэтацыі Новага Запавету, якія датычаць габрэйскага народу і яго ўяўнай віны. Яны выклікалі пачуцці варожасці ў адносінах да гэтага народу. Яны спрычыніліся да ўсыплення многіх сумленняў. Таму таксама, калі над Еўропай пракацілася хваля праследаў, інспіраваных паганскім антысемітызмам, які па сутнасці таксама антыхрысціянскі, побач з хрысціянамі, якія зрабілі ўсё для ратавання праследаваных, у т.л. рызыкуючы сваім жыццём, было таксама шмат такіх, чыё духоўнае супраціўленне не адпавядала таму, што чалавецтва магло чакаць ад вучняў Хрыста. Ваш аб'ектыўны погляд на мінулае, які мае на мэце ачышчэнне памяці, асабліва стасуецца з выразным вызначэннем, што для антысемітызму няма ніякага апраўдання і што ён ва ўсіх адносінах варты асуджэння.

(...) Я адпаведным чынам ацэньваю той факт, што даследчая праца тэалагічнага характару, здзейсненая вашым сімпозіумам, выканана з вялікай навуковай дакладнасцю і перакананнем, што служыць Праўдзе – значыць служыць самому Хрысту і Яго Касцёлу.

2. Апостал Павел напрыканцы раздзелаў з Ліста да Рымлянаў (рзд.9-11), у якіх дае нам рашаючыя тлумачэнні адносна прызначэння Ізраіля ў Божым плане, узносіць песню пакланення: "О, глыбіня багацця, і мудрасці, і ведання Божага" (пар.Рым 11,33). У палаючай душы Паўла гэты гімн ёсць зваротам да сфармуляванага ім прынцыпу: "Бо ўсіх Бог замкнуў у непаслухмянасць, каб усіх памілаваць" (пар.Рым 11,32). Гісторыя Збаўлення, хоць часамі яе эпізоды для нас незразумелыя, залежыць ад Міласэрнасці Таго, які прыйшоў ацаліць страчанае. Толькі пастава адарацыі неабдымных глыбіняў любячага Провіду Божага дазваляе ўбачыць што-небудзь з таямніцы веры.

3. У пачатку гісторыі гэтага народу, што жыў паміж вялікіх паганскіх імперыяў, якія перавышалі яго ў вартасцях культуры, знаходзіцца факт выбрання Богам. Гэты народ пакліканы і ведзены Яхвэ, Стварыцелем Неба і Зямлі. Таму ягонае існаванне не з'яўляецца звычайным натуральным альбо культурным фактам у тым значэнні, у якім чалавек, дзякуючы культуры, развівае багацці свае ўласнай істоты. Гэта надпрыродны факт. Гэты народ існуе насуперак усяму, бо ён – народ Запавету і таму, што, нягледзячы на людскую нявернасць, Яхвэ верны свайму Запавету.

Ігнараванне гэтага асноватворнага палажэння азначае ўзыход на шлях маркіянізму, супраць якога Касцёл жыва зрэагаваў, усведамляючы сваю істотную сувязь са Старым Запаветам, без якога Новы Запавет губляе сваё значэнне. Нельга адлучаць Пісанняў ад народу і ягонай гісторыі, якая вядзе да Хрыста, абяцанага і чаканага Месіі, Сына Божага, які стаў чалавекам. Касцёл не перастае вызнаваць гэта, штодня ўспамінаючы ў сваёй літургіі псальмы, гэтак жа як і гімн Захарыі, Марыі Панны і Сімеона (гл.Пс 132,17; Лк 1,46-55; 1,68-79; 2,29-32).

Таму таксама тыя, хто лічыць факт прыналежнасці Езуса да габрэйства звычайным культурным супадзеннем, якое магло б быць заменена іншай рэлігійнай традыцыяй, ад якой асоба Пана магла б быць адарвана, не трацячы сваёй тоеснасці, не толькі не прызнаюць сэнсу гісторыі збаўлення, але яшчэ больш рашуча супраціўляюцца самой праўдзе аб Уцелаўленні і робяць немагчымай аўтэнтычную канцэпцыю інкультурацыі.

4. (...) Касцёл рашуча асуджае любыя формы генацыду, як і расісцкія тэорыі, якія іх інспіравалі і намагаліся іх апраўдаць. Можна прыгадаць энцыклікі Пія XI *Mit brennender Sorge* (1937) і Пія XII *Summi pontificatus* (1939). Пій XII нагадаў аб законе чалавечай салідарнасці і любові да кожнага чалавека незалежна ад нацыянальнасці. Таму расізм – гэта адмаўленне найглыбейшай тоеснасці чалавечай істоты, якая з'яўляецца асобай, створанай па вобразе і падабенстве Божым. У выпадку шоах (альбо катастрофы – так прынята называць генацыд габрэяў у часе II сусветнай вайны. – *Заўвага рэд. КН*) да маральнага зла, якім ёсць любы генацыд, далучаецца зло нянавісці супраць збаўчага плану Бога ў гісторыі. Касцёл таксама адчувае сябе непасрэдна закранутым гэтай нянавісцю.

Святы Павел у Лісце да Рымлянаў вучыць нас, якія братэрскія пачуцці, закаранёныя ў веры, мы павінны аказваць сынам Ізраіля (пар.Рым 9,4-5). Апостал падкрэслівае: "з увагі на іх айцоў" іх палюбіў Бог, дары і заклікі якога неадменныя.

5. Запэўніваю вас у маёй удзячнасці за праведзеную вамі працу над вельмі важным пытаннем, якое моцна мяне закранула. Гэткім чынам вы далучаецеся да паглыблення дыялогу паміж католікамі і габрэямі. Мы рады, што гэты дыялог пазітыўна аднавіўся ў апошнія гады.

(...)

**Ватыканскі штодзённік асудзіў кланаванне**

Ватыканскі штодзённік *L'Osservatore Romano* ў спецыяльным матэрыяле піша, што праз выкарыстанне метадаў кланавання людзей будзе парушаны Боскі парадак перадачы жыцця. Гэты спосаб пракрэацыі не можа быць прыняты нават тады, калі ён з'яўляецца адзіным шанцам у выпадку бясплоднасці, – заявіў доктар маральнай тэалогіі а.Джыно Канчэцці.

Кардынал Эрсілія Таніні, былы арцыбіскуп Равэны, у сваю чаргу адзначыў у інтэрв'ю для радыё, што планы кланавання людзей з'яўляюцца “трыумфам немаральнасці, якая выдаецца за прымальнае”.

Ватыканская Кангрэгацыя Навукі Веры заявіла ўжо ў 1987г., што выкарыстанне метадаў кланавання ў адносінах да людзей супярэчыць маралі. Папа Ян Павел II таксама неаднаразова перасцерагаў ад пагрозы, якую нясуць годнасці чалавека эксперыменты на яго генах. (KAI/KNA).



**Міратворчыя намаганні Ватыкана ў Іраку**

Апостальская Сталіца працягвае прадпрымаць інтэнсіўныя намаганні з мэтай не дапусціць узброенага канфлікту ў Іраку, – сказаў сакратар стану кардынал Анджэла Садана. У інтэрв'ю італьянскай газеце *La Repubblica* ён падкрэсліў, што Апостальская Сталіца прысвяціла ўсе свае дыпламатычныя магчымасці ўрэгуляванню іракскага крызісу і працягвае падтрымліваць пастаянны кантакт з дыпламатычнымі прадстаўнікамі розных краін, іх урадамі і кіраўніцтвам ААН.

16 лютага наглядальнік ад Апостальскай Сталіцы пры ААН арцыбіскуп Рэната Марціна перадаў генеральнаму сакратару гэтай арганізацыі К.Аннану асабісты ліст Яна Паўла II з просьбай, каб кіраўнік ААН наведаў Багдад і дапамог знайсці мірнае вырашэнне канфлікту.

Падчас знаходжання ў Рыме ў лютым г.г. Халдэйскі Патрыярх, глава каталікаў халдэйскага абраду, якіх у Іраку жыве некалькі соцень тысяч чалавек, Рафаэль I Бідавід заявіў, што Ян Павел II жадае наведаць Ірак. Праўда, ні час, ні план гэтага візіту яшчэ не вызначаны. У 1994г. Папа выказаў жаданне ў рамках падрыхтоўкі Касцёла да 2000 года здзейсніць пілігрымкі да месцаў, звязаных з гісторыяй Старога Запавету. Візіт у Ірак мог бы стаць чарговым этапам гэтай падрыхтоўкі, бо менавіта тут знаходзіцца старажытны халдэйскі горад Ур, у якім нарадзіўся Абрагам і адкуль ён пачаў сваё вандраванне ў Абяцаную Зямлю.

Патрыярх лічыць, што і Садам Хусейн, і Біл Клінтан нясуць адказнасць за ўзнікненне канфлікту ў Пярсідскім заліве. Захад і цяпер не разумее ментальнасці ні прэзідэнта, ні іракскага народу. Тымчасам, – сказаў іерарх у праграме Ватыканскага радыё, – гэты народ памірае ад голаду і адсутнасці лекаў. Па гэтай прычыне за апошнія сем гадоў памерла звыш мільёна дзяцей. Гэтыя дадзеныя прадставіла ААН. Сітуацыю ў Іраку Патрыярх назваў генацыдам. (KAI/KNA/CWN).



**Апостальская Сталіца пра неабходнасць аграрнай рэформы**

Задачай палітыкаў і эканамістаў усіх кантынентаў з'яўляецца правядзенне неабходных рэформаў у сельскай гаспадарцы, якія б мелі на мэце развіццё ўсіх грамадстваў, – гэта асноўная думка дакумента "Пра больш дасканалы падзел зямлі. Неабходнасць зямельнай рэформы", які выдала Папская рада "Iustitia et Pax".

Аўтары дакумента падкрэсліваюць, што ён з'яўляецца адказам на вялікую патрэбу як беднякоў, так і душпастыраў, што патрабуюць пераканаўчых слоў, інспіраваных Евангеллем, якія б апісалі жахлівы стан у сферы ўласнасці і выкарыстання зямлі практычна на ўсіх кантынентах.

"Цяпер – найлепшы час, каб вярнуць бедным і людзям з сацыяльных нізоў права карыстацца зямлёй і яе плёнамі, якія з'яўляюцца дарам Пана для ўсіх і для кожнага з Яго дзяцей", – пішуць члены Папскай рады, нагадваючы пра заклік Папы Яна Паўла II, каб набліжэнне Юбілею 2000 Года было часам навяртання і актыўнасці як у сацыяльнай, так і палітычнай сферах.

Стрыжнёвая ідэя дакумен-

та – правядзенне плённай і справядлівай аграрнай рэформы, якую каталіцкае сацыяльнае вучэнне лічыць адной з найбольш неабходных ініцыятыў. Пры гэтым нагадваеца, што зямля, якая апрацоўваецца недастаткова, пасля адпаведнай кампенсацыі ўласнікам павінна перадавацца тым, хто яе не мае альбо валодае малой колькасцю. Дзяржаўныя ўлады і адказныя ўсіх узроўняў заклікань спрашчаць доступ да прыватнай уласнасці праз вызначанае юрыдычнае рэгуляванне, якое спрыяе гаспадарчай і падатковай палітыцы.

Дакумент выразна асуджае "латыфундызм як форму сацыяльна неадпаведнага карыстання правам уласнасці і сур'ёзную перашкоду для свабоднага перамяшчэння людзей". Таксама вострай крытыцы падвергнута дзяржаўная ўласнасць, бо, на думку членаў Папскай рады, яна вядзе да абесчалавечвання грамадзянскай супольнасці.

Найбольш уласцівай формай карыстання ўяўляецца сямейная сялянская гаспадарка, у якой яе члены непасрэдна распараджаюцца зямлёй. Такога тыпу ўласнасць абапіраецца перадусім на сямейную працу, адначасова ствараючы дадатковую магчымасць для працы іншых. "Дзякуючы эфектыўнасці кіравання і атрыманаму падобным чынам супольнаму багаццю, такая гаспадарка стварае новыя магчымасці працы і чалавечага ўзрастання для ўсіх", – сцвярджаюць аўтары дакумента. Апроч сямейнай уласнасці, улады павінны таксама шанаваць калектыўную ўласнасць, якая характэрна многім карэнным народнасцям і з'яўляецца неад'емным элементам іх культуры.

Рада "Iustitia et Pax" таксама заклікае кіраўнікоў праводзіць справядлівую палітыку ў сферы працы праз стварэнне ўмоў, якія б забяспечвалі права на працу, гарантавалі справядлівы заробак і ахоўвалі права работнікаў ствараць таварыствы з мэтай абароны ўласных правоў. Таксама дакумент звяртае ўвагу на неабходнасць стварэння сістэмы прафесійнай падрыхтоўкі, што зрабіла б магчымым рэальнае развіццё грамадства ў сферах працы і культуры. (KAI).



**Яшчэ адна частка ватыканскіх архіваў стала даступнай**

Адкрыццё ватыканскіх архіваў перыяду інквізіцыі можа выявіць новыя матэрыялы на тэму спрэчкі, якая ўзнікла ў XVI ст. паміж Рымам і Марцінам Лютэрам. Кангрэгацыя Навукі Веры паведаміла, што большасць з 4,5 тыс. тамоў дакументаў, якія сталі даступныя гісторыкам, датычыцца "вялікіх тэалагічных спрэчак, звязаных з Рэфармацыяй і Трыдэнцкім Саборам", дыскусіі Касцёла з духоўнымі рухамі эпохі Асветы, а таксама новымі філасофскімі і навуковымі тэорыямі XIX ст. (KAI/KNA).



## АПОШНІМ ЧАСАМ У КРАІНАХ УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ УСКЛАДНІЛІСЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ ПАМІЖ ХРЫСЦІЯНСКІМІ КАНФЕСІЯМІ

• Канстанцінопальскі Патрыярх Барталамей І падтрымаў заявы іншых праваслаўных іерархаў аб вербаванні праваслаўных Касцёлам. У інтэрв'ю для адной з бельгійскіх газет ганаровы галава сусветнага праваслаўя падкрэсліў, што перадусім гэта праблема датычыць краінаў былога СССР. Паводле слоў Патрыярха, праваслаўныя ў гэтым рэгіёне лічаць, што лучныя з Рымам Цэрквы вярбуюць вызнаўцаў праваслаўя, а Касцёл з дапамогай польскіх місіянераў выконвае "экспансіянісцкую" палітыку. Перацягванне вернікаў з'яўляецца сур'ёзнай праблемай таксама ў Сербіі, Румыніі і Славакіі, – адзначыў Патрыярх Барталамей І. На яго думку, Касцёл павінен прымальным чынам адрэагаваць на гэту праблему, каб можна было весці сур'ёзны дыялог на іншыя тэмы. (TP).

• "На нашу думку, колькасць каталіцкіх святароў і біскупаў перавышае душпастырскія патрэбы каталіцкага насельніцтва",– сказаў у інтэрв'ю маскоўскай каталіцкай газеце *Свет Евангелия* іераманах Іларыён, кіраўнік Сакратарыяту па справах міжхрысціянскіх адносін Аддзелу знешніх зносін Маскоўскага Патрыярхату, і дадаў, што "многія каталіцкія парафіі намагаюцца прыцягнуць ці праваслаўных, ці асобаў, якія з'яўляюцца "патэнцыйна праваслаўнымі". (TP). Католікаў у краіне ўсяго 5 млн., для якіх служаць 30 біскупаў і 1800 святароў.

***(KAI/SN)***

**19 краін Еўропы забаранілі кланаванне людзей**

Пратакол аб забароне кланавання людзей падпісалі 12 студзеня ў Парыжы прадстаўнікі 19 з 40 краін-членаў Рады Еўропы. Дакумент, які забараняе "ствараць чалавечыя істоты на ўзор іншых, жывых альбо памерлых, незалежна ад выкарыстаных спосабаў" падтрымалі Францыя, Данія, Фінляндыя, Нарвегія, Партугалія, Турцыя, іншыя дзяржавы. Але гэту дамову змогуць падпісаць толькі тыя 22 краіны Еўропы, якія ўжо далучыліся да біяэтычнай канвенцыі.

Прыняты Радай Еўропы ў лістападзе 1997г. дадатковы пратакол да Еўрапейскай біяэтычнай канвенцыі аводзіць поўную забарону кланавання. Але пратакол нічога не гаворыць аб кланаванні клетак і тканей для навуковых і медыцынскіх мэтаў, а таксама пакідае паасобным краінам юрыдычнае вызначэнне паняцця "чалавечая істота". Гэтая акалічнасць стала прычынай устрымання некаторых краін ад падпісання пратакола.

Грэцкае слова "клон" азначае "парастак, атожылак". Кланаванне – гэта размнажэнне жывых істот праз дзяленне клетак непалавым шляхам. (KAI/KNA).

_УКРАІНА_
**Вынікі апытання на тэму рэлігіі**

Звыш 60% украінскай моладзі лічаць сябе хрысціянамі, 35% не ідэнтыфікуюць сябе з ніводнай рэлігіяй, а 4% назвалі сябе атэістамі. Такія лічбы паведаміў Украінскі інстытут грамадскіх даследаванняў, які разам з групай "Грамадскі маніторынг" правёў анкетаванне моладзі ва ўзросце з 15 да 28 гадоў. 48% апытаных адказалі, што з'яўляюцца праваслаўнымі, 12% – каталікамі, 1% апытаных вызнаюць іншыя рэлігіі. Не радзей 1 разу на тыдзень у рэлігійных практыках удзельнічае 7% рэспандэнтаў.

Паводле афіцыйных дадзеных, пацверджаных у мінулым годзе таксама Апостальскай Сталіцай, на Украіне былі зарэгістраваны 6882 парафіі Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату, 3098 – Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, 1580 абшчынаў Саюзу евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў, 1529 парафій УПЦ Кіеўскага Патрыярхату, 1167 – Аўтакефальнай УПЦ, 885 пяцідзесятніцкіх абшчынаў, 716 рымска-каталіцкіх парафій, 543 адвентысцкія абшчыны, а таксама 236 мусульманскіх і 85 габрэйскіх абшчынаў, а таксама 913 групаў "разнастайнай арыентацыі".

Паводле ацэнкі Апостальскай Сталіцы, нягледзячы на раскол і напружанасць сярод праваслаўных, рэлігійная сітуацыя на Украіне паступова стабілізуецца. (KAI/B-I).

_ІНДАНЕЗІЯ_
**Нарастае пераслед хрысціянаў**

У Інданезіі нарастае хваля злачынстваў супраць Касцёла – паведаміла агенцтва *Fides*, якое звязана з Кангрэгацыяй Евангелізацыі Народаў. На працягу апошніх двух гадоў у гэтай краіне разбурана 105 святыняў, а з канца Другой сусветнай вайны знішчана 376 касцёлаў і забіта 20 законнікаў. У Інданезіі жыве звыш 200 млн. мусульманаў (92% насельніцтва).

_САЛЬВАДОР_
**Створаны універсітэт для бедных**

Універсітэт імя арцыбіскупа Рамэра, спецыяльна створаны для бедных студэнтаў, пачаў сваю працу з студзеня г.г. Шмат намаганняў для стварэння гэтай навучальнай установы ў свой час прыклаў забіты ў 1980г. арцыбіскуп Аскара Арнульфа Рамэра.

Пабудаваны на поўначы краіны, універсітэт прапануе навучанне на 4-х аддзяленнях – юрыдычным, педагагічным, агранамічным і ветэрынарным. У ім змогуць вучыцца студэнты, якія вымушаны адначасова працаваць. Гэта дазволіць атрымліваць адукацыю таксама жанчынам, асабліва тым, што самастойна выхоўваюць дзяцей. (KAI).

_В'ЕТНАМ_
**Дыскрымінацыя Касцёла ў камуністычным В'етнаме**

75-гадовы біскуп, які адпраўляе Святую Імшу ў інваліднай калясцы, і 96-гадовы святар засталіся адзінымі душпастырамі ў дыяцэзіі Ланг Сан-Као Банг, якая знаходзіцца на мяжы з Кітаем. Акрамя двух названых святароў, душпастырскую апеку над некалькімі тысячамі каталікаў, што жывуць на тэрыторыі 25 тыс.кв. км, выконвае таксама 107-гадовая законніца. В'етнамскі ўрад не дазваляе прыязджаць душпастырам іншых дыяцэзій. (KAI).

Ватыканскі бюлетэнь Fides паведаміў, што кіраўнік в'етнамскага ўрадавага Камітэта па справах рэлігій распарадзіўся ўвесці новыя абмежаванні дзейнасці Касцёла. Так, напрыклад, улады павінны пастаянна інфармавацца пра душпастырскую падрыхтоўку да юбілейных урачыстасцяў 2000 Года. Усе касцёльныя публікацыі, у т.л. тэксты песняў, якія выкладваюцца ў храмах для карыстання ў часе набажэнстваў, павінны быць узгоднены з уладамі. Біскупам звбараняецца распаўсюджваць "нелегальныя інфармацыйныя матэрыялы".

Яшчэ адно абмежаванне датычыць Спецыяльнага Сінода Біскупаў для Азіі, які пачнецца вясной г.г. у Рыме. Жадаючы пазбегнуць непаразуменняў, урад прапанаваў біскупам выбраць такога прадстаўніка на Сінод, які без перашкод змог бы пакінуць краіну. Выбраныя раней два

прадстаўнікі в'етнамскага Касцёла не атрымалі згоды ўладаў на выезд. (КАІ).

*НІКАРАГУА*

**Ад карупцыі найперш церпяць убогія**

Арцыбіскуп Манагуа кардынал Мігель Абанда Брава заклікаў вернікаў Нікарагуа да барацьбы з карупцыяй, найперш сярод уладаў, бо, – як ён сказаў, – "гэты плён несправядлівасці асабліва кранае і карае самых бедных". "Злоўжыванні альбо некампетэнтнае распараджэнне грамадскімі сродкамі сур'ёзна шкодзяць усім нам, але асабліва – самым бедным, якія нясуць найвялікшы цяжар вынікаў карупцыі", – сказаў кардынал. Ён падкрэсліў, што дзейнасць ураду павінна быць накіравана для супольнага дабра, а не для вузкіх інтарэсаў кіруючых асобаў. "Можа дайсці да таго, што каштоўнасці, прызначаныя для грамадскага дабра, будуць служыць іншым інтарэсам, асабістым ці нават крымінальным", – адзначыў арцыбіскуп Манагуа. Адначасова ён акцэнтаваў увагу на тое, што барацьба з карупцыяй патрабуе не толькі добрай рэалізацыі ўлады, але таксама "велікадушнага супрацоўніцтва ўсіх грамадзянаў, заснаванага на моцных маральных перакананнях". (KAI/SN)

*ГЕРМАНІЯ*

**Дапамога *Renovabis* у 1998г.**

Фонд салідарнасці нямецкіх католікаў *Renovabis* плануе выдаткаваць у 1998г. каля 60 млн. марак на дапамогу Касцёлам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Мяркуецца, што дзве трэці гэтай сумы будуць выдаткаваны з грошай нямецкага касцёла, а трэць паступіць у якасці ахвяраванняў. Палова запланаванай сумы мяркуецца выкарыстаць на аднаўленне рэлігійнага жыцця – падрыхтоўку святароў і свецкіх супрацоўнікаў для касцёльных інстытутаў, будаўніцтва касцёлаў і парафіяльных дамоў, а таксама на сацыяльную і выхаваўчую працу законаў. Другая частка грошай будзе прызначана на сацыяльную дзейнасць – дапамогу бяздомным, убогім, дамам прытулку і інш., а таксама на падтрымку ініцыятываў, скіраваных на развіццё дыялогу і партнёрства хрысціянскіх супольнасцяў у Еўропе. (KAI/KNA).

*КАЗАХСТАН*

**Новы кодэкс абараняе веруючых**

З новага года ў Казахстане ўступіў у дзеянне новы крымінальны кодэкс, які ў большай ступені, чым папярэдні, ахоўвае правы веруючых. Ён забараняе, напрыклад, дапытваць святара ў якасці сведкі па справах, аб якіх ён даведаўся ў часе споведзі. Кодэкс прадугледжвае адказнасць і пакаранне за абмежаванне рэлігійных правоў і свабодаў грамадзянаў, у прыватнасці абмежаванне адпаведнай з законам дзейнасці рэлігійных арганізацый ці выканання абрадаў, наўмысныя дзеянні, скіраваныя на поўнае альбо частковае знішчэнне рэлігійнай групы ці яе членаў, а таксама распальванне рэлігійнай варожасці. Новы кодэкс гарантуе асуджаным свабоду сумлення і веравызнання. Асобы, якія адбываюць пакаранне, могуць выконваць рэлігійныя абрады, карыстацца прадметамі культу і рэлігійнай літаратурай, па іх просьбе запрашаюцца душпастыры афіцыйна зарэгістраваных рэлігійных супольнасцяў. (KAI/B-I ).

**Адбыўся чарговы этап каталіцка-праваслаўных кансультацый**

13-14 студзеня ў Свята-Данілавым манастыры ў Маскве адбыліся двухдзённыя кансультацыі прадстаўнікоў Апостальскай сталіцы і Рускай Праваслаўнай Царквы. Дэлегацыі ўзначальвалі кардынал Эдвард Касідзі, кіраўнік Папскай рады па справах развіцця хрысціянскай еднасці, і мітрапаліт смаленскі і калінінградскі Кірыл, кіраўнік Аддзелу знешніх зносін Маскоўскага Патрыярхату. Як паведаміла інфармацыйная служба РПЦ, было адзначана, што міжканфесійныя адносіны на Заходняй Украіне не палепшыліся з часу папярэдняй двухбаковай сустрэчы ў Бары (Італія) ў маі мінулага году. Былі абмеркаваны таксама адносіны да Сусветнай рады цэркваў і экуменічнага руху ўвогуле, стасункі праваслаўных і католікаў ў Расіі і іншых краінах былога СССР, а таксама пытанні падрыхтоўкі да Юбілею 2000-годдзя хрысціянства. Каментатары адзначаюць, што ніводнае з папярэдніх спатканняў абедзвюх дэлегацый не было такім канфідэнцыйным. Апостальскі адміністратар для католікаў лацінскага абраду еўрапейскай часткі Расіі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у адным з інтэрв'ю выказаў шкадаванне з прычыны адсутнасці інфармацыі аб змесце кансультацый не толькі для журналістаў, але і для яго як мясцовага біскупа. (Паводле КАІ).

**Візіт дэлегацыі Сусветнай рады цэркваў у Маскву**

У лютым г.г. з візітам у Маскве знаходзілася дэлегацыя Сусветнай рады цэркваў. Падчас прэс-канферэнцыі генеральны сакратар гэтай арганізацыі Конрад Райзэр паведаміў, што мэтай візіту было "высвятленне адносінаў з Праваслаўнымі Цэрквамі і ўмацаванне месца Праваслаўя ў хрысціянскай супольнасці". На яго думку, прычынай крытыкі СРЦ, якая ўсё часцей гучыць у расійскім Праваслаўі, з'яўляецца "недахоп ведаў і скажоная інфармацыя пра яе дзейнасць". Кіраўніцтва Рускай Праваслаўнай Царквы нядаўна абмяркоўвала магчымасць выйсця з СРЦ. У сувязі з гэтым адным з прыярытэтаў далейшай працы Рады сп.Райзэр

адзначыў "развіццё ўзаемаадносінаў і абмен інфармацыяй паміж СРЦ і РПЦ". Падчас сустрэчы з парафіянамі адной з маскоўскіх парафій сп.Райзэр заявіў, што падначаленая яму арганізацыя ні ў якім разе не жадае быць нейкай "супер-Царквой" з уласным вучэннем і канонамі. Мэтай яе дзейнасці з'яўляецца арганізацыя сустрэч прадстаўнікоў розных хрысціянскіх традыцый дзеля пошуку бачнага адзінства, – падкрэсліў генеральны сакратар СРЦ. Заявы некаторых праваслаўных фундаменталістаў аб тым, што экуменізм быў "ерассю і маткай усіх ерасяў", не адпавядае рэчаіснасці хаця б таму, што гэты рух (і СРЦ таксама) не мае ўласнай тэалагічнай дактрыны, – працягваў сп.Райзэр.

З вострай крытыкай візіту прадстаўнікоў СРЦ выступілі члены Саюза праваслаўных брацтваў. "Мы пераканаными, што гэты візіт арганізавалі адэпты экуменічнай ерасі з мэтай уціску на кіраўніцтва Царквы, духавенства і вернікаў, каб захаваць іх членства ў СРЦ", – сцвярджае заява Саюза. На думку членаў брацтваў, удзел у СРЦ з'яўляецца "блюзнерствам і здрадай Праваслаўю". (Паводле КАІ).

## Kościół rzymskokatolicki w Polsce po raz pierwszy obchodził Dzień Judaizmu

(17 stycznia). Hasło Dnia brzmiało: "Kto spotyka Jezusa Chrystusa, spotyka judaizm". Główne uroczystości, z udziałem m.in. przewodniczącego Komitetu Episkopatu do Dialogu z Judaizmem bpa Stanisława Gądackiego, prezesa PRE bpa Jana Szarka oraz ambasadora Izraela w Polsce Zigala Antebiego odbyły się w warszawskiej synagodze im. Nożyków.

"Łączy nas wiara w jednego Boga, wiara i zawierzenie temu samemu Pismu, umiłowanie Izraela, które nigdy nie zostało przez Boga cofnięte" – mówił o związkach chrześcijan i Żydów bp Gądecki, zaś Stanisław Krajewski, reprezentujący Związek Gmin Wyznaniowych Żydowskich w Polsce, powiedział: "Cieszy nas głęboka zmiana, jaka dokonała się w nauczaniu Kościoła. Ta zmiana to (...) uznanie prawomocności judaizmu i postawa szacunku wobec nieodwoływalnego Przymierza zawartego pomiędzy Stwórcą a Żydami".

Dzień Judaizmu obchodzono w wielu miastach w Posce, m.in. w Krakowie i w Lublinie.

W czasie nabożeństw, zorganizowanych w kościołach, modlono się m.in. za ofiary.

## Caritas zapowiada kolejną akcję na ubogich

**Warszawa**

Tegoroczna akcja skarbonek wielkopostnych Caritas będzie prowadzona pod hasłem "Byłem ubogi i opuszczony a przyjeliściÔe Mnie". Uzyskane ofiary przekazane będą na potrzeby ubogich – powiedział dyrektor Caritas Polska ks. dr Wojciech Łazewski.

Pierwszy raz ofiary do skarbonek zbierano w 1996 r. pod hasłem "Wy dajcie im jeść". Pieniądze przekazano na pomoc głodującym. W 1997 r. ofiary do skarbonek zbierano pod hasłem "Jestem bezdomny – pomóż mi". Uzyskane sumy przekazano na potrzeby bezdomnych.

## Polscy biskupi złożyli wizytę "ad limina Apostolorum".

Do złożenia takiej wizyty (której celem jest uczczenie grobów Apostołów: świętych Piotra i Pawła, spotkanie z Biskupem Rzymu oraz odwiedziny i złożenie sprawozdań w różnych dykasteriach Kurii Rzymskiej) zobowiązani są co 5 lat wszyscy biskupi diecezjalni. Ojciec Święty przyjmuje każdego z biskupów osobiście, z tego powodu wizyta polskiego Episkopatu została podzielona na trzy etapy: na czele pierwszej grupy stał kard. Henryk Gulbinowicz (12-19 stycznia), na czele grupy drugiej – kard. Franciszek Macharski (29 stycznia-5 lutego), natomiast grupa trzecia złożyła wizytę pod przewodnictwem kard. Józefa Glempa (14-20 lutego)

## Papież wyświęcił biskupa tarnowskiego

**Watykan**

W uroczystość objawienia Pańskiego, 6 stycznia, Jan Paweł II wyświęcił w bazylice watykańskiej nowego biskupa tarnowskiego ks. Wiktora Skworca. Zaszczytu tego wraz z nim dostąpiło pięciu Włochów, Chilijczyk, Filipińczyk. Wszystkim im Papież życzył, by byli "wiernymi sługami nowej ewangelizacji, która szerzy na świecie światło Chrystusa".

## *КОРАТКА*

• Арцыбіскуп Філадэльфіі кардынал Энтані Бівайлаква заклікаў да неадкладнага супраціўлення расізму ў ЗША. У абшырным лісце кардынал падкрэсліў, што "расізм – гэта заразная маральная хвароба... Расізм – гэта грэх і беззаконне, якія немагчыма нічым апраўдаць".

• Італьянскі мадэльер Дж.Армані перадаў некалькі дзесяткаў тысяч франкаў на кансервацыю вітражоў касцёла Сэн-Жэрмэн-дэс-Прэс у Парыжы. 63-гадовы мастак паведаміў, што прызначыць на дапамогу храму яшчэ 160 тыс. даляраў і 15% ад сумы, заробленай на працягу трох першых дзён працы новай крамы мадэльера насупраць касцёла Сэн-Жэрмэн-дэс-Прэс.

**Kościół greckokatolicki odzyskał ok. 800 hektarów ziemi** z 17 tys. ha gruntów zabranych mu i upaństwowionych przez władze komunistyczne w 1947 r. "Cieszymy się z tego, co nam oddali. Więcej nie można było odzyskać" – powiedział abp Jan Martyniak, informując, że Agencja Własności Rolnej Skarbu Państwa w Rzeszowie już wcześniej rozdzieliła całą ziemię, którą dysponowała.

# Супольная малітва аб еднасці хрысціянаў

У рамках традыцыйнага Тыдня малітвы за еднасць хрысціянаў 22 студзеня ў Магілёўскай катэдры адбылася супольная малітва, у якой удзельнічалі прадстаўнікі духавенства і вернікі Праваслаўнай Царквы, баптыстаў, пяцідзесятнікаў і адвэнтыстаў сёмага дня. Пасля прывітання ўдзельнікаў сустрэчы кс.пробашчам Уладзіславам Блінам пачалася супольная малітва, падчас якой прадстаўнікі хрысціянскіх дэнамінацый па чарзе маліліся аб міры, еднасці і братэрстве. На спатканні прысутнічалі таксама прадстаўнікі мусульманскай і габрэйскай абшчынаў. Набажэнства закончылася пацалункам міру і братэрскай бяседай.

У падрыхтоўцы экуменічнага спаткання ўдзельнічалі законніцы Супольнасці сясцёр ад Анёлаў і місіянеркі Святой Сям'і. Супольнасць місіянерак заснавана блаславёнай Баляславай Лямэнт. Сёстры, наследуючы сваю заснавальніцу, моляцца аб еднасці хрысціянаў і за гэта ахвяруюць штодня сваю працу і ўсе выпрабаванні шляху законнага жыцця.

*с.Алімпія*

# Святкаванне Вялікага Юбілею

19 лютага ў Баранавічах адбылася сустрэча Нацыянальнага Камітэта па падрыхтоўцы да Вялікага Юбілею 2000 года. На ёй прысутнічалі пастыры Каталіцкага Касцёла Беларусі – кардынал Казімір Свёнтак і Гродзенскі біскуп Аляксандар Кашкевіч. На сустрэчы разглядаліся канкрэтныя пытанні падрыхтоўкі да Юбілею. Была прызначана дата ўрачыстага адкрыцця Юбілею – 25 снежня 1999 года ў Мінску, Гродне і Пінску, а ў парафіях – у перыяд ад 26 снежня 1999 года да 1 студзеня 2000 года. Запланаваны таксама іншыя мерапрыемствы: Марыялагічны і Эўхарыстычны кангрэсы, Экуменічны сімпозіум, Сустрэча моладзі Беларусі, Сустрэча навукоўцаў і інтэлігенцыі, Сустрэча хрысціянскіх сем'яў, Сустрэча кансэкраваных асобаў. Адбудуцца фестывалі духоўнай музыкі – у 1998г. у Магілёве, 1999г. у Гродне і ў 2000г. у Мінску.

*(Д)*

# Семінар на тэму супрацоўніцтва хрысціянаў у сферы сацыяльнага служэння

У выніку экуменічных кантактаў прадстаўнікоў хрысціянскіх дэнамінацый Беларусі ў кастрычніку 1997г. была ўтворана Рабочая экуменічная група, задачай якой з'яўляецца ўстанаўленне цесных кантактаў паміж хрысціянскімі канфесіямі Беларусі і выпрацоўка плану сумеснай дзейнасці. У станаўленні групы вялікую дапамогу аказаў Міжнародны культурна-адукацыйны цэнтр (IBB).

Першае пасяджэнне групы адбылося ў лістападзе 1997г. Сярод напрамкаў яе дзейнасці – арганізацыя сумеснай малітвы аб еднасці хрысціянаў, пошук звестак аб усіх беларускіх мучаніках за веру, стварэнне інфармацыйнага цэнтра і інфармацыйна-тэрамеўтычнага цэнтра для ахвяраў сектаў, сумесная сацыяльная праца і дзейнасць па абароне жыцця, папулярызацыя хрысціянскай культуры.

Першым плёнам дзейнасці Рабочай групы стаў семінар "Сацыяльнае служэнне хрысціянскіх цэркваў на Беларусі", які адбыўся 24 студзеня г.г. Прадстаўнікі Касцёла, Праваслаўнай Царквы і баптысцкай абшчыны абмяняліся вопытам сацыяльнай працы і абмеркавалі магчымасці сумесных ініцыятываў у сферы дабрачыннасці. Прадстаўнікі хрысціянскіх дэнамінацый звярнуліся найперш да тых аспектаў жыцця і дзейнасці, якія яднаюць людзей на шляху служэння.

*(Д)*

# "Свята душы і малітвы" ў Мінску




Пералівам званоў і спевам калядных гімнаў з візантыйскай Літургіі пачаўся 9 студзеня г.г. у Мінску прымеркаваны да свята Божага Нараджэння II Міжнародны фестываль праваслаўных песнапенняў (першы падобны фестываль адбыўся ў Мінску ў 1995г.). Яго арганізавалі Беларускі цэнтр падтрымкі хрысціянскай культуры, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі Беларусі і іншыя ўстановы.

Ларыса Густова, дырэктар фестываля, паведаміла, што ініцыятарам і галоўным натхняльнікам правядзення "свята душы і малітвы" быў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

На адкрыцці фестываля ўладыка Філарэт благаславіў удзельнікаў і слухачоў канцэртаў. У сваім выступленні ён узгадаў Мінскі фестываль царкоўнай музыкі ў 1989г., які быў прысвечаны 400-годдзю ўстанаўлення Патрыяршаства Рускай Праваслаўнай Царквы і стаў тады першым царкоўным музычным фестывалем на Беларусі. Яго Высокапраасвяшчэнства выказаў радасць, што традыцыя падобных фестываляў працягваецца і адзначыў, што сёння неабходна больш канкрэтных спраў у сферы духоўнага адраджэння. "Калі адраджэнне адбываецца ў душы аднаго чалавека, у маленькай сям'і, парафіі, тады наступае адраджэнне ў Царкве і гэтым самым прыносіцца адраджэнне ў свет", – сказаў ён.

Сёлетні фестываль праваслаўных песнапенняў стаў дзіцяча-юнацкім. Ён сабраў царкоўна-парафіяльныя і свецкія дзіцячыя і юнацкія хары, а таксама хары нядзельных школ з некалькіх гарадоў Беларусі (з Мінска, Слуцка, Баранавічаў, Віцебска, Маладзечна, Брэста) і Расіі (з Обнінска і Масквы).

Першыя два дні фестываля былі прысвечаны конкурсным выступленням харавых калектываў, якія выконвалі праваслаўныя богаслужбовыя песнапенні, харавыя канцэрты кампазітараў-класікаў і сучасных беларускіх кампазітараў, канты і псальмы. Выступленні ацэньвала журы на чале з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, кампазітарам а.Анрэем Бандарэнкам, святаром Свята-Барыса-Глебскай царквы з Гродна. У склад журы увайшлі аўтарытэтныя спецыялісты харавога мастацтва з Беларусі, а таксама дырэктар Фестываля духоўнай музыкі ў Гайнаўцы (Польшчы) пан Мікалай Бушка.

У нядзелю 11 студзеня, у дзень закрыцця фестываля, усе харавыя калектывы ўдзельнічалі ў богаслужэннях у праваслаўных парафіях Мінска. Дзеці і моладзь змаглі самым непасрэдным чынам суставараць "супольную малітву аб краіне нашай, аб уладах і воінстве, аб спакойным і дабрачэсным жыцці, аб мірных часах, аб збаўленні ад суму, гневу і нястачы", што было, паводле задумы арганізатараў, найважнейшым прызначэннем усяго фестываля.

Кіраўнік журы а.А.Бандарэнка заўважыў, што ўдзел дзяцей і моладзі ў падобных святах царкоўных спеваў – "справа новая, адказная і вельмі неабходная". Паводле задумы арганізатараў, Фестываль праваслаўных песнапенняў у Мінску павінен стаць традыцыйным і ў будучым праводзіцца штогод.

Нагадаем, што з 1993г. у Магілёве адбываецца штогадовы Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа", які мае экуменічны характар.

***І. Іваноў***

## Шосты міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі "МАГУТНЫ БОЖА"

**адбудзецца ў Магілёве з 11 да 17 ліпеня 1998г.**

Арганізатары фестывалю запрашаюць да ўдзелу ў ім усіх, хто любіць рэлігійную музыку. Па-за конкурсам удзельнікі фестывалю змогуць выступаць у канцэртных залах Магілёва. Адначасова з музычнай праграмай фестывалю будуць адбывацца разнастайныя выступленні, мастацкія выставы.

Арганізатары чакаюць вашых прапаноў, ініцыятываў, рознага роду дапамогі.

**Ахвотныя ўдзельнічаць у фестывалі павінны паведаміць пра гэта пісьмова да 30 красавіка 1998г.**

*Сакратарыят фестывалю: вул.Камсамольская 4. 212030 Магілёў. Тэл/факс +0222-257367.*

# Палескія святыні на старонках каталіцкага каляндара




Каталіцкі каляндар на 1998 год Пружанскага дэканата Пінскай дыяцэзіі выдадзены пад рэдакцыяй кс.дэкана Эдварда Лоека СМ (лазарыста). Цудоўнае калярoвае выданне апавядае штомесяц аб адной з парафій, яе гісторыі і цяперашнім дні.

Сёння у дэканаце працуе пяць святароў: кс.Мірaслаў Жлабінскі fDP (арыяніст; Целяханы); кс.Анджэй Мажэц SAC (палятын; Бяроза, Белаазёрск, Сялец, Сігневічы); кс.Дарыюш Блашчык СМ (Косава, Івацэвічы, Волька), кс. Януш Пуліт СМ (Ружаны, Лыскава), кс. Эдвард Лоек СМ (Пружаны, Шарашова, Перадзельск). Дзякуючы іхняй ахвярнай працы аднавілася парафіяльнае жыццё там, дзе яшчэ дзесяць гадоў таму “не было вернікаў каталіцкага веравызнання”. Каляндар з’яўляецца “цаглінкай” у адбудове касцёлаў, з якіх у савецкія часы дзейнічаў толькі адзін, і пабудове новых. Сёння ўжо радуе вока гмах новазбудаванага касцёла ў Бярозе; аднак, у неадпаведных Божаму культу будынках збіраюцца на Св.Імшу вернікі ў Івацэвічах, Вольцы, Белаазёрску, а ў Целяханах будынак касцёла да гэтага часу выкарыстоўваецца як кінатэатр.

*С.Стасевіч*

# Новыя каталіцкія выданні на Беларусі

Яшчэ адным крокам на шляху адраджэння Касцёла на Беларусі стаў выпуск афіцыйных выданняў Курый дзвюх каталіцкіх дыяцэзій – "Пінскага дыяцэзіяльнага агляда" і "Мінска-Магілёўскага архідыяцэзіяльнага агляда". Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк прызначыў рэдактарам абодвух перыёдыкаў кс.Станіслава Паўліну fDP, канцлера Пінскай Курыі і пробашча Пінскай катэдры. Першыя нумары "Аглядаў" былі афіцыйна прадстаўлены падчас Дзён духоўных сустрэчаў святароў дыяцэзій ў лютым.

У гэтых афіцыйных выданнях будуць публікавацца дакументы Апостальскай Сталіцы, біскупскія дэкрэты і іншыя распараджэнні Курый. "Агляды" адрасаваны перадусім душпастырам. Першыя нумары выданняў прысвечаны важнейшым дакументам 1991-1997 гадоў, г.зн. перыяду станаўлення душпастырскай працы і адміністрацыйных структур Касцёла на Беларусі пасля падзення камуністычнага рэжыму.

У 20–30-я гады нашага стагоддзя на Беларусі выдаваліся "Пінскі дыяцэзіяльны агляд" і "Штомесячнік Мінскай дыяцэзіі" (на польскай мове), заснаваныя біскупам Зыгмунтам Лазінскім.

**А.**

# Закончаны пераклад на беларускую мову тэксту Святой Імшы

10 лютага на сустрэчы святароў Пінскай дыяцэзіі адбылося прадстаўленне студыйнага варыянта перакладу на беларускую мову тэкста Святой Імшы з народам, які падрыхтаваны Мітрапалітальнай камісіяй па перакладах літургічных тэкстаў і рэлігійнай літаратуры. Упершыню на Беларусі пераклад тэкста Святой Імшы зроблены з лацінскай мовы. Мяркуецца, што студыйны варыянт будзе абмеркаваны святарамі і пасля іх заўваг Мітрапалітальная камісія зацвердзіць канчатковы тэкст Святой Імшы, які будзе ўжывацца на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

# У Мінску адкрылася выстава, прысвечаная Марціну Лютэру

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася фотавыстава, прысвечаная "выдатнаму сыну нямецкага народа", "заснавальніку Пратэстанцкай Царквы", як кажа суправаджальны тэкст, Марціну Лютэру. Выставу складаюць некалькі фотастэндаў, якія апавядаюць аб жыцці і дзейнасці Лютэра: выявы гістарычных месцаў ягонай дзейнасці, партрэты бацькоў, жонкі, яго самога ў розныя гады, здымкі першых выданняў нямецкага перакладу Бібліі.

Выставу арганізавала Мінская лютэранская абшчына "Збаўленне". Яна ўзнікла нядаўна і праводзіць богаслужэнні ў IBB (Міжнародны культурна-адукацыйны цэнтр). Гэты прыклад – яшчэ адно сведчанне магчымага супрацоўніцтва культурных інстытутаў і рэлігіі, бо "абодва бакі ідуць тым самым шляхам і маюць аднолькавую мэту: служыць чалавеку, развіваць усе вымярэнні яго духу і знутры ажыўляць усе супольныя і грамадскія стасункі" (Ян Павел II).

***А.Солад***

# Высвячэнне дыяканаў у Гродне





*фота А.Шэнды*

24 студзеня ў былым бернардынскім касцёле ў Гродна Яго Эксцэленцыя біскуп Аляксандр Кашкевіч рукапаклаў у дыяканы трох алюмнаў мясцовай духоўнай семінарыі: Яна Баўтрукевіча і Алега Дуця з Гродзенскай вобласці, а таксама Аляксея Раманчука з парафіі Удзел Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Падчас Вялікага Посту яны будуць праходзіць практыку і дапамагаць у душпастырскім служэнні святарам у парафіях, вызначаных біскупамі дыяцэзій.

## "Архікатэдра пачынае жыць паўнатою свайго жыцця"

У нядзелю 11 студзеня ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк удзяліў Сакрамэнт бежмавання больш як 120 вернікам архікатэдральнай парафіі, а таксама некальким дзесяткам вернікаў іншых мінскіх парафій.

"Нарэшце,– сказаў кардынал Казімір Свёнтэк падчас Св.Імшы,– наша адноўленая і наноў пасвечаная архікатэдра пачынае жыць паўнатою свайго жыцця". Узгадаўшы ў сваім казанні наведванне Вячэрніка ў Ерузалеме, Яго Эмінэнцыя адзначыў, што "сёння гэты храм становіцца Вячэрнікам, дзе ўсе вы, падобна першым апосталам, прымеце Духа Святога і Яго дары".

*і.і.*

## Дзень хворых у Баранавічах

11 лютага ў Доме Святой Тройцы ў Баранавічах адбылося малітоўнае спатканне для хворых і адзінокіх людзей сталага веку, прымеркаванае да Міжнароднага дня хворых. Падобныя спатканні сталі добрай традыцыяй у горадзе. Іх арганізуюць ужо некалькі гадоў запар на вялікія святы (Каляды, Вялікдзень) і ў Міжнародны Дзень хворых місіянеры Божага Слова (SVD) і сёстры-місіянеркі Святой Сям'і. Напрыканцы ўрачыстай Імшы быў удзелены Сакрамэнт намашчэння хворых. Для ўсіх удзельнікаў малітоўнага спаткання, якіх сабралася ў гэты дзень каля 100 чалавек, накрылі салодкі стол, а моладзь з Легіёна Марыі падрыхтавала святочны канцэрт.

*(Д)*

**КОРАТКА**

• З 5 да 8 студзеня ў Баранавічах адбыліся рэкалекцыі для дзяўчат, арганізаваныя сёстрамі-місіянеркамі Святой Сям'і. Больш за 30 дзяўчат прынялі ўдзел у гэтых духоўных сустрэчах, мэтай якіх, па словах арганізатараў, з'яўляецца дапамога дзяўчатам па прыкладзе жыцця Святой Сям'і знайсці сваё месца ў жыцці, сустрэцца з Езусам.

• 30 студзеня ў Мінск вярнулася бібліятэка імя Адама Міцкевіча. Бібліятэка польскай літаратуры, заснаваная 90 гадоў таму назад пры Касцёле святых Сымона і Алены перададзена Хрысціянскаму таварыству міласэрнасці, якое сёння дзейнічае пры касцёле. 6270 асобнікаў кніг са збору, некалі вывезенага ў Польшчу, з часам стануць даступнымі для ўсіх зацікаўленых.

• 14 студзеня ў Мінску ў праваслаўнай царкве св.Аляксандра Неўскага адбылося ўрачыстае богаслужэнне, прысвечанае стагоддзю пабудовы храма, якое правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Царква была пабудавана ў гонар перамогі ў руска-турэцкай вайне 1877-78 гадоў. Пры ўваходзе ў храм вісяць дзве мемарыяльныя дошкі з імёнамі 118-ці беларусаў, якія загінулі пры ўзяцці балгарскай Плеўны.

• Сустрэча святароў Пінскай дыяцэзіі адбылася ў Новай Мышы 10 лютага. Разважанні падрыхтаваў кс.Эдвард Лоек СМ, Пружанскі дзекан. Падчас адарацыі ён разважаў на тэму беднасці святароў. Урачыстую Імшу адслужыў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. На сустрэчы былі абмеркаваны актуальныя пытанні жыцця дыяцэзіі.

• 23 лютага ў Лагішыне адбылася чарговая духоўная сустрэча законніц Пінскай дыяцэзіі. Яе правёў кс.Міраслаў Жлабінскі fDP, духоўны айцец для законніц дыяцэзіі. На сустрэчы прысутнічаў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтак. У сваёй прамове да сясцёр ён заклікаў іх да малітвы за актуальныя патрэбы Касцёла і за паспяховую працу Сіноду.



## Свята ў парафіі Яна Хрысціцеля

31 студзеня, у дзень св.Яна Боскі, у парафіі св.Яна Хрысціцеля ў Мінску, якой апякуюцца айцы салезіяне, была адслужана ўрачыстая Імша. У ёй удзельнічаў нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі. У гамiліі ён падкрэсліў важнасць багатага вопыту выхаваўчай працы салезіянскага Закону, які заснаваў св.Ян Боска. Пасля Святой Імшы адбыўся канцэрт, падрыхтаваны моладдзю парафіі.

*Т.*



## "Еднасць і вернасць Касцёлу неабходныя, каб сведчыць пра любоў"

17 лютага ў Нясвіжы адбыўся Дзень духоўнай сустрэчы святароў, у якой удзельнічала каля 30 душпастыраў з Мінскай вобласці. Святую Імшу ў фарным касцёле Божага Цела канцэлебраваў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. Напрыканцы яе ён падзякаваў шматлікім вернікам за вернасць Касцёлу ў цяжкі перыяд выпрабаванняў веры і заклікаў іх быць і надалей вытрывалымі ў захаванні каталіцка-хрысціянскай традыцыі і прывіцці яе нашчадкам. Яго Эмінэнцыя заклікаў вернікаў Нясвіжа захоўваць еднасць сваёй парафіяльнай супольнасці, выяўляючы гэтым нед'емную для хрысціяніна любоў да бліжніх, а таксама запэўніў, што Нясвіжскі храм Божага Цела, які на працягу 400 гадоў быў каталіцкай святыняй, застаецца ёю цяпер і будзе заўсёды. Кардынал Казімір Свёнтэк адзначыў, што сёлетні год будзе надзвычай важным для ўсяго беларускага Касцёла і асабліва для Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі: 13 мая пачнецца перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай па парафіях архідыяцэзіі, якая працягнецца да снежня, а ў ліпені адбудзецца каранацыя папскімі каронамі абраза Маці Божай Будслаўскай.

*Н.А.*

# Сакавік

**1 н І нядзеля Вялікага Посту**
**св.Альбіна**, біскупа (†554); Антаніны, Фелікса
Друг 26,4-10; Рым 10,8-13; Лк 4,1-13.

**2 пн бл.Карла Добрага**, мучаніка (†1127); Алены, Радаслава, Сімпліцыя
Лев 19,1-2.11-18; Мц 25,31-46.

**3 аўт св.Кунегунды**, каралевы (†1040); Тыцыяна, Марыны
Іс 55,10-11; Мц 6,7-15.

**4 ср св.Казіміра**, князя (†1484), апекуна Гродзенскай дыяцэзіі; Яўгенія, Люцыяна

*Казімір* – другі сын караля Польшчы і Вялікага князя Літоўскага Казіміра Ягелончыка. Цнатлівы і пабожны юнак пагарджаў светам і ягонай хвалай, ахвотна прабываў сярод бедных, шчодра адорваў іх міласцінай, захоўваючы асабістую сціпласць. Вельмі шанаваў Божую Маці, гадзінамі маліўся каля Яе алтара або перад зачыненай касцёльнай брамай. Памёр ад цяжкай хваробы грудзей, ад якой доўга пакутаваў, у Гародні, маючы 26 гадоў. Рэліквіі знаходзяцца ў Віленскай Катэдры. Кананізаваны ў 1522г.

*Дзень імянінаў Яго Эмінэнцыі Кардынала Казіміра Свёнтка, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, Апостальскага адміністратара Пінскай дыяцэзіі.*

*Парафіяльнае свята ў Лепелі, Лагойску, Стоўбцах; Жлобіне.*

Сір 51, 13-20; Лк 12, 35-40.

**5 чц св.Яна Яээпа ад Крыжа**, святара (Карла Гаэтана, †1734); Тэафіла, Фрыдэрыка, Віргілія
Эст 14,1.3-5.12-14; Мц 7,7-12.

**6 пт св.Калеты**, дзевы (Нікалет Буале, †1447); Ружы, Агнешкі, Віктара
Эз 18,21-28; Мц 5,20-26.

**7 сб св.Перпетуі і Феліцыты**, мучаніц Карфагенскіх (†203)
Друг 26,16-19; Мц 5,43-48 або муч.1 Крл (руск.Сін.пер. 3 Цар) 2,1-4.10-12; Мк 6,7-13

**8 нд II нядзеля Вялікага Посту**
**св.Яна Божага**, законніка (†1550), апекуна шпіталяў і хворых; Бэаты, Вінцэнта
Быц 15,5-12.17-18; (даўж.) Флп 3, 17-4,1; (карац.) Флп 3,20-4,1; Лк 9,28б-36

Святы Хуан дэ Дзіас, даведаўшыся, у якіх жудасных умовах знаходзяцца хворыя і вар'яты, вырашыў служэнню ім прысвяціць сваё жыццё. Заснаваў шпіталь у Гранадзе, дзе разам з аднадумцамі дапамагаў убогім і ўсімі пагарджаным. Памёр у дзень свайго нараджэння, маючы 55 гадоў, з якіх 42 шукаў сваёй дарогі да Бога, а 13 гадоў поўнасцю аддаваў сябе іншым. У 1586 годзе ягоныя духоўныя сыны атрымалі ад Апостальскага Пасаду зацвярджэнне як закон братоў міласэрнасці (баніфратаў). Закон дзейнічаў і на Беларусі, апякуючыся хворымі, асабліва ў часе эпідэмій.

**9 пн св.Францішкі Рымлянкі**, законніцы (†1440); **св.Дамініка Савіо**, Кацярыны
Дан 9,4б-10; Лк 6,36-38.

**10 аўт св.Макарыя**, біскупа Іерусалімскага (IV ст.); Яўгеніі, Александра, Цыпрыяна
Іс 1,10.16-20; Мц 23,1-12.

**11 ср св.Эўлогія**, мучаніка з Кардовы (†859); Канстанціна, Сафронія, Анелі
Яр 18,18-20; Мц 20,17-28.

**12 чц св.Тэафана**, летапісца (VIII ст.); Максімільяна, Тэафіла, Бернарда, Грыгорыя, Юстыны
Яр 17,5-10; Лк 16,19-31

**13 пт св.Радрыга**, мучаніка з Кардовы (IX ст.); Хрысціны, Бажэны, Патрыцыі
Быц 37,3-4.12-13а.17б-28; Мц 21,33-43.45-46.

**14 сб св.Матыльды**, каралевы (†968); Лявона, Лазара
Міх 7,14-15.18-20; Лк 15,1-3.11-32.

**15 нд III нядзеля Вялікага Посту**
**св.Луізы дэ Марыльяк**, удавы (†1660), заснавальніцы закону сясцёр міласэрнасці (шарытак)

*Сёстры-шарыткі сёння працуюць на Беларусі (Брэст);* Клеменса, Захарыі
Зых 3,1-8а.13-15; 1 Кар 10,1-6.10-12; Лк 13,1-9.

**16 пн св.Гэрберта**, біскупа (†1024); Юльяна, Гіларыя, Ізабэлі

*У Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі – гадавіна асвячэння Катэдры*

2 Крл (руск.Сін.пер. 4 Цар) 5,1-15а; Лк 4,24-30.

**17 аўт св.Патрыка**, біскупа (†461), апостала, апекуна Ірландыі, Збігнева, Гертруды
Дан 3,25.34-43; Мц 18,21-35 або біск. Дз 13,46-49; Лк 10,1-9.

**18 ср св.Кірыла Іерусалімскага**, біскупа і доктара Касцёла (†387); Эдварда, Гвідона
Друг 4,1.5-9; Мц 5,17-19 або біскупу (гл. папярэдні дзень).

**19 чц св.Язэпа, заручанага Найсвяцейшай Панны Марыі**, апекуна паўсюднага Касцёла; Багдана
2 См (рус.Сін.пер. 2 Цар) 7,4-5а.12-14а.16; Рым 4,13.16-18.22; Мц 1,16.18-21.24а або Лк 2,41-51а.

*Парафіяльныя святы ў Бабры, Барадзенічах, Гарадзеі, Казіміраве, Круглым, Мінску, Маладзечне, Оршы, Рубяжэвічах, Валожыне; Брэсце, Ляхавічах, Лунінцы, Жабінцы.*

**20 пт св.Вальфрама**, біскупа (†703); Клаўдзіі, Маўрыкія, Аляксандра
Оз 14,2-10; Мк 12,28б-34.

**21 сб св.Мікалая з Флюэлі**, пустэльніка (†1487), апекуна Швейцарыі; Бенедыкта, Любаміра
Оз 6,1-6; Лк 18,9-14.

**22 нд IV нядзеля Вялікага Посту**
**св.Леі, удавы** (IV ст.); Кацярыны, Багуслава
Ез Нав 5,9а.10-12; 2 Кар 5,17-21; Лк 15,1-3.11-32

**23 п св.Турыбія з Мангравэха**, біскупа (†1606); Пелагеі, Фелікса
Іс 65,17-21; Ян 4,43-54

**24 аўт св.Кацярыны Шведскай**, дзевы (†1380), апякункі тых, каго спасцігаюць няўдачы; Габрыэля
Эз 47,1-9.12; Ян 5,1-3а.5-16

**25 ср Звеставанне (Дабравешчанне Найсвяцейшай Панны Марыі**
Марыі, Пракопа, Вячаслава
Іс 7,10-14; Габр 10,4-10; Лк 1,26-38.

*Парафіяльнае свята у Петрыкаве.*

*Марыя згаджаецца з весткай Арханёла. Ад гэтай хвіліны Бог заўсёды з Ёю. Ён – з чалавецтвам, яднаецца з ім, каб збавіць свет і даць яму свайго Сына, Адкупіцеля. Марыя – гэта жывое, канкрэтнае сведчанне гэтай збаўчай прысутнасці Бога. Будзем адкрытыя на дзеянне Слова, якое хоча збавіць свет пры дапамозе ўсіх, хто паверыў у Яго. А разам з Ім прымем кожнага чалавека.* (Ян Павел II)

**26 чц св.Маргарыты Клітэроў**, мучаніцы (†1586); Людгера, Ларысы, Эмануэля
Зых 32,7-14; Ян 5,31-47

**27 пт св.Рупэрта з Зальцбурга**, біскупа (†710); Лідзіі, Эрнэста
Мудр 2,1а.12-22; Ян 7,1-2.10.25-30

**28 сб св.Гунтрама**, караля (†592); Жаны, Анелі, Кастара
Яр 11,18-20; Ян 7,40-53

**29 нд V нядзеля Вялікага Посту**
**св.Язэпа Арыматэйскага**, апекуна далакопаў; Бертольда, Стэфана, Віктарына, Эўстахія
Іс 43,16-21; Флп 3,8-14; Ян 8,1-11.

**30 пн св.Яна Лесвічніка**, ігумена і пустэльніка Сінайскага (†645); Леанарда, Амадэя
Дан 13,41-62; Ян 8,12-20.

**31 аўт св.Веніяміна**, дыякана і мучаніка (†424); Гвідона, Бальбіны
Ліч 21,4-9; Ян 8,21-30.

Інфармацыйны бюлетэнь **"Каталіцкія навіны"** № 2/1998 (30)
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэдакцыйная Рада. Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйны № 686.
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 26.02.98. Папера афсетная №1, фармат 62 1/8. Друк афсетны. Друк. арк. 3. Наклад 3500 экз. Зак. 32.
Адрас рэдакцыі: 220030 г.Мінск, пл.Свабоды, 9, факс: (0172) 26-90-92.
Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.
Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836, вул.Чкалава, 14.